*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

**Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.)** **№ 33 (193)** **17 жніўня 1994 г.** **Кошт — 150 рублёў**

## ПОСТУП ТЫДНЯ

○ **УПЕРШЫНЮ Ў НАШАЙ КРАІНЕ 4 ВЕРАСНЯ БУДЗЕ АДЗНАЧАЦЦА ДЗЕНЬ БЕЛАРУСКАГА ПІСЬМЕНСТВА І ДРУКУ.** 4 жніўня ў Нацыянальным прэс-цэнтры адбылася прэс-канферэнцыя, на якой выступіў міністр культуры і друку Анатоль Бутэвіч. Першай сталіцай народнай урачыстасці будзе старажытны Полацк – калыска беларускай дзяржаўнасці і культуры, горад, неразрыўна звязаны з імёнамі асветніцы Ефрасінні Полацкай і першадрукара Францыска Скарыны. А.Бутэвіч паведаміў: «Цяперашнія мерапрыемствы, прысвечаныя Дню пісьменства і друку, будуць праводзіцца па ўсёй краіне на працягу тыдня: з 28 жніўня па 4 верасня. Яны пройдуць пад знакам першых урокаў, лекцый, семінараў па тэме «Пісьменства і друк Беларусі – крыніца культуры і духоўнасці народа».

○ *АДБЫЎСЯ ДЫЯЛОГ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ АЛЯКСАНДРА ЛУКАШЭНКІ З ГАЛОЎНЫМІ РЭДАКТАРАМІ ЦЭНТРАЛЬНЫХ ГАЗЕТ І ЧАСОПІСАЎ. Прэзідэнт [illegible] бяцаў не пакінуць сродкі масавай інфармацыі без падтрымкі ва ўмовах «дзікага рынку».*

○ **ПРЭЗІДЭНТ НАШАЙ КРАІНЫ АЛЯКСАНДР ЛУКАШЭНКА 8 ЖНІЎНЯ ПРАДСТАВІЎ** супрацоўнікам Нацыянальнай тэлерадыёкампаніі новага кіраўніка. Ім стаў Рыгор Кісель, які раней працаваў галоўным рэдактарам газеты «Могилевские ведомости».

○ *АДБЫЛАСЯ СУСТРЭЧА ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ АЛЯКСАНДРА ЛУКАШЭНКІ З МІТРАПАЛІТАМ МЕНСКІМ І СЛУЦКІМ ФІЛАРЭТАМ, ПАТРЫЯРШЫМ ЭКЗАРХАМ УСЯЕ БЕЛАРУСІ. У гутарцы былі ўзняты праблемы духоўна-маральнага адраджэння народа. Мітрапаліт Філарэт паставіў перад прэзідэнтам пытанне аб вяртанні Беларускаму Экзархату памяшканняў і іншай царкоўнай маёмасці, рэквізіраванай пасля 1918 года.*

○ **ВІЦЭ-ПРЭМ'ЕР ВІКТАР ГАНЧАР У АДНЫМ З ІНТЭРВ'Ю СКАЗАЎ:** «Я дакладна і адназначна магу заявіць, што Кабінет міністраў будзе стаяць на пазіцыях беларускай дзяржаўнасці і адраджэння нацыянальнай культуры. З другога боку, магу запэўніць, што мы не будзем гэтыя працэсы штучна фарсіраваць». На пытанне аб захаванні адзінай дзяржаўнай мовы – беларускай, В.Ганчар адказаў: «Пытанне аб зменах у Канстытуцыі ўвогуле не ставіцца. Я мяркую, што канстытуцыйная фармулёўка па мове з'яўляецца аптымальнай». Пра сродкі масавай інфармацыі віцэ-прэм'ер сказаў: «Беларускамоўнаму друку будзе аказвацца прыярытэтная падтрымка».

○ *У АДНЫМ З НЯДАЎНІХ НУМАРОЎ ГАЗЕТЫ «ЗВЯЗДА» ЗМЕШЧАНА ГУТАРКА З ЖОНКАЙ ПЕРШАГА ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ГАЛІНАЙ ЛУКАШЭНКА, якая на пытанне: «А ці ёсць у вас палітычныя рознагалоссі з мужам?» адказала: «У нечым я з ім не згодна. Напрыклад, ён выступае за двухмоўе, а я лічу, што ў нас павінна быць дзяржаўнай толькі беларуская мова. Сорамна нам, беларусам, не ведаць сваёй мовы. А калі ўвесці двухмоўе, то ўсё застанецца так, як ёсць».*

— *З НАГОДЫ ПАДЗЕІ* —

# ЦЯЖКІ ШЛЯХ У ЕЎРОПУ

## (Святкаванне Дня незалежнасці ў Менску)

*У Дзень незалежнасці ў Менску адбыліся мітынгі на плошчы Незалежнасці і ў скверы Янкі Купалы, шэсце па праспекце Скарыны і набажэнства ў Курапатах. На гэты раз «стражы парадку» не чынілі перашкод народнафронтаўцам, ветэранам, творчай інтэлігенцыі, рабочым і служачым, што сабраліся пад бел-чырвона-белымі сцягамі на гарачым ліпеньскім сонцы. Народны паэт Беларусі Рыгор Барадулін горка пажартаваў: «Гэта свята крыху ліпавае, бо яно ў ліпені прынятае».*



А адзінаццатай гадзіне раніцы перад Домам урада, які нядаўна ўпрыгожыў герб «Пагоня», начэплены, дарэчы, на стары БССРаўскі, пачаўся першы мітынг. Выступілі народныя дэпутаты Вярхоўнага Савета ад апазіцыі Сяргей Навумчык, Валянцін Голубеў — адзін з аўтараў Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце БССР, старшыня Беларускага народнага фронту Зянон Пазьняк. Выступоўцы адзначылі, што прыняцце Дэкларацыі было ажыццёўлена чатыры гады назад пры непасрэдным удзеле апазіцыі, якая распрацавала праект. Таму 27 ліпеня — дзень перамогі ўсіх дэмакратычных сіл рэспублікі, перамогі нацыянальнай ідэі і этап на шляху для сапраўднай незалежнасці. Першы крок быў зроблены 25 сакавіка 1918 г., другі крок — 27 ліпеня 1990 г. Чарговы крок для незалежнасці стане рашаючым. Адзначалася, што народ падключаецца да будаўніцтва суверэннай дзяржавы. Выбаршчыкі цікавяцца, чаму ў нас да гэтага часу няма ўласнай валюты або калі начальства з урадавых рэзідэнцый пачне клапаціцца па-сапраўднаму аб сваіх грамадзянах. Гаварылася на мітынгу і пра тое, што Дзень незалежнасці святкуюць не толькі беларусы. На плошчу прыйшлі рускія, яўрэі, палякі, літоўцы, грузіны і нават цёмнаскурыя грамадзяне, што атабарыліся на нашай зямлі. І гэта добра, што адбываецца кансалідацыя грамадства, бо, толькі аб'яднаўшыся, мы пабудуем суверэнную Беларусь і вернемся ў Еўропу. Сёння ў нас існуе — наўмысна ствараецца

(*Працяг на с.2*)



***Рыгор БАРАДУЛІН***

## *БЕЛАРУСЫ ЎСІХ КРАЁЎ, ЯДНАЙЦЕСЯ!*

***Беларусы ўсіх краёў, яднайцеся!***
***Нас няшмат, а будзе менш яшчэ,***
***Як адступім, зломімся пад націскам,***
***Як ад нас рашучасць уцячэ.***
***Праз усе вякі нас толькі ціснулі***
***І хадзіць хацелі, як па тлі.***
***Нас душылі волгамі і віслamі,***
***Кожны тужыў зашморгу пятлі.***
***Нас палілі, катавалі, праталі,***
***Малацілі нас, нібы кулі,***
***Каралі, забойцы, імператары***
***І бацькі працоўных мас,***
***Калі***
***Беларусь, як палатніну, кроілі***
***На мундзіры ды на каптаны,***
***Каб магілы з нашымі героямі***
***Уціскалі валуны маны.***
***Над святынямі паруйнаванымі***
***Паклянёмся дбаць пра карані.***
***Будзем Янкамі, а не Іванамі,***
***Што не ведаюць свае радні.***
***Працавалі мы на ўсе імперыі,***
***Папрацуем на сябе, браты.***
***Дык адродзімся душой і верою.***
***З намі Бацька Бог***
***І Дух святы!***

## З НАГОДЫ ПАДЗЕІ




*(Заканчэнне. Пачатак на с. 1)*

— нацыянальнае пытанне: адных абвінавачваюць у русафобіі, другіх — у беларусафобіі. Гэта страшна. У незалежнай самастойнай Беларусі запануе нацыянальная згода. Беларусы будуць шанаваць культуру і традыцыі народаў, што насяляюць нашу зямлю, а гэтыя народы будуць шанаваць усё беларускае.

У скверы Янкі Купалы, ля помніка вялікаму песняру, выступілі народныя пісьменнікі Беларусі Васіль Быкаў і Рыгор Барадулін, дэпутаты Вярхоўнага Савета ад апазіцыі Лявон Баршчэўскі, Сяргей Антончык, Юрась Беленькі, Зянон Пазьняк, дэпутат Менгарсавета Галіна Вашчанка, старшыня Асацыяцыі незалежных сродкаў масавай інфармацыі Алесь Нікалайчанка, старшыня Беларускай сялянскай партыі Яўген Лугін і іншыя. Пасля афіцыйнай часткі адбыўся канцэрт, у якім прынялі ўдзел фальклорныя спеўна-інструментальныя гурты. На канцэрце выступіў сябра «Бацькаўшчыны» паэт з Даўгаўпілса Станіслаў Валодзька. Ад імя творчых калектываў удзельнікаў свята прывітаў прэзідэнт Асацыяцыі фалькларыстаў Беларусі Васіль Ліцвінка.

***Выступленне Васіля БЫКАВА:***

**— Сёння сапраўды вялікі дзень для беларускага народа. Наогул трэба сказаць, што гэты дзень заўсёды вялікі для кожнай нацыі, кожнага народа. Сапраўды, у грамадстве пасля чалавечага жыцця не існуе нічога больш каштоўнага за дзяржаўную незалежнасць. За гэтую незалежнасць змагаліся ўсе нацыі. Што да Амерыкі, то яшчэ 200 гадоў назад вялікі Джэферсан стварыў сваю знакамітую Дэкларацыю незалежнасці Злучаных Штатаў Амерыкі. Мы ж дагэтуль не можам пераканаць нацыю ў найбольшай каштоўнасці ідэі незалежнасці. Нам усё здаецца, што гэта нешта такое, што да нас не мае ніякіх адносін. На самай справе гэта мае самыя непасрэдныя адносіны да ўсяго нашага жыцця — і грамадскага, і культурнага, і эканамічнага. Калі Амерыка нешта мае, то менавіта таму, што 200 гадоў для яе незалежнасць не была праблемай. А для нас усё яшчэ з'яўляецца праблемай. Я думаю, што ў рэшце рэшт наша нацыя пераканае сябе ў неабходнейшай перадумове свайго жыцця і свайго існавання — гэта незалежнасць, суверэннасць, дзяржаўнасць і дэмакратызацыя грамадства. Я жадаю, каб усе беларусы ўсвядомілі, што гэта для іх значыць.**

***З выступлення Алеся НІКАЛАЙЧАНКІ:***

**— Нагадаю Прэзідэнту, што дзяржава запазычылася перад журналістамі. Мы рашуча патрабуем Закон аб друку, праект якога прыняты ў першым чытанні, пусціць... па ўсіх сродках масавай інфармацыі на абмеркаванне журналістамі, навукоўцамі, аўтарамі, чытачамі. Каб такога не было, як здарылася ў мінулым годзе, калі журналістам было навязана больш за шэсцьдзесят судовых працэсаў у абарону пакрыўджаных наменклатуршчыкаў, менавіта іх «чесці и достоинства». Мы патрабуем сапраўднай свабоды слова, друку і іншых сродкаў масавай інфармацыі, каб ніколі ў нашай практыцы не здарылася таго, што здарылася ў маі—чэрвені з радыёстанцыямі «Беларуская маладзёжная» і «Крыніца», з газетамі «Свабода», «Выбар» і іншымі дэмакратычнымі выданнямі. Магу назваць шмат журналістаў, якія сёння не ўладкаваны ў сістэму журналістыкі. Раблю такую высновы: няма незалежнай, няма нацыянальнай дзяржавы без нацыянальнага друку, без журналіста, які разумее, што гэта грамадства і гэта краіна яму дадзена раз і назаўсёды і бараніць іх гонар — яго святы абавязак.**

**Яшчэ я пратэстую супраць той антыбеларускай, антынацыянальнай кампаніі, якая на сённяшні дзень праводзіцца дзяржаўнымі і ўладнымі структурамі. Зірніце на наш горад! Сёння на яго вуліцах няма нацыянальных сцягоў — вісяць адны аранжавыя, чырвоныя, блакітныя, зялёныя сцяжкі. А дзе дзяржаўная сімволіка? Дзе наша незалежнасць, хай сабе і прывідная? Я заклікаю вас, шаноўныя журналісты, выступіць супраць гэтага манкуртызму ў час, калі ўлада змянілася, і выйсці на прамы дыялог з грамадствам, біцца, як кажуць, да апошняга дыхання за нашу незалежнасць.**

***З выступлення Яўгена ЛУГІНА:***

**— І Дэкларацыя аб незалежнасці Беларусі, і прынятая Канстытуцыя, і сённяшняе свята, — усё гэта прыстасаванне да той таталітарнай сістэмы, што яшчэ пануе на Беларусі. Чалавек вольны павінен працаваць на ўласнай зямлі. А гэтага не будзе, пакуль дзейнічае цяперашні Вярхоўны Савет і мясцовыя органы ўлады. Таму заклікаю сур'ёзна рыхтавацца да наступных выбараў у Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь і выкарыстаць усе магчымасці, каб змяніць старую ўладу да апошняга чыноўніка... Закончу галоўным лозунгам Беларускай сялянскай партыі: «За зямлю і волю!»**

***З выступлення Юрася БЕЛЕНЬКАГА:***

**— Якой уяўляюць Беларусь замежныя спецыялісты, сацыёлагі, эканамісты? А вось якой: Беларусь — унікальная дзяржава. Яна мае добры рабочы клас, добрую інтэлігенцыю і адносна добрую тэхналогію, багатыя нетры і унікальную геапалітычную сітуацыю.**

**Скажу так: у Беларусі два шляхі. Гэта страта незалежнасці і ператварэнне яе ў «прахадны двор», і другі шлях — гэта пабудова незалежнай дзяржавы і ператварэнне яе ў Швейцарыю. Я мару аб вольнай, незалежнай і заможнай Бацькаўшчыне. Будзе незалежная эканоміка — прыйдзе і дабрабыт.**

***З выступлення Зянона ПАЗЬНЯКА:***

**— Зараз мы з'яўляемся сведкамі парадаксальнай сітуацыі: маем незалежную дзяржаву, маем на Доме ўрада герб «Пагоню», але ўсе разумеем, што пад нашым гербам «капуста» схавана — штосьці няшчырае, небяспечнае. Гэтае няшчырае, небяспечнае і ёсць наша начальства, што нам дасталося ў спадчыну па гэтай «капусце». Спадзяюся, што мы пераажывём яго духоўна, пераажывём нашай ідэяй, нашай праўдай, нашай гісторыяй. Яно зайшло ўжо ў тупік і стаіць у гэтым тупіку, бо не мае ніякай ідэі. Ідэя сваёй дзяржавы начальніку не грэе. І хоць яны аб ёй гавораць, але гавораць фальшыва, бо ідэя нацыянальнай незалежнасці ім чужая. Значыць, яны не будуць праводзіць палітыку ў інтарэсах нашай дзяржавы, нашай нацыі, нашай будучыні. Яны не будуць гэта рабіць, хоць будуць аб гэтым гаварыць пад прымусам. Ідэя незалежнасці дзяржавы, духоўнага адраджэння, адраджэння нацыянальнай культуры — наша ідэя, ідэя людзей, што гэта разумеюць і сталі на шлях адраджэння.**

**На зямлі ёсць два шляхі, два прынцыпы арганізацыі грамадства. Адзін нарадзіўся ў еўрапейскай цывілізацыі. Гэта стварэнне нацыянальных дзяржаў і ўзаемадачыненняў паміж імі. Гэта выпакутавала Еўропа, еўрапейская гісторыя. Гэты шлях прыводзіць да стварэння нацыянальных дзяржаў, дзяржаў дэмакратычных, але не таталітарных, таму што нацыянальная ідэя ў аснове сваёй — гэта ідэя народная, ідэя дэмакратыі. Тут каштоўнасці правоў чалавека, права ўсіх народаў на самавызначэнне, каштоўнасці рынкавай эканомікі, каштоўнасці павагі да людзей і г.д.**

**І ёсць другі шлях — шлях Азіі. Гэта стварэнне імперыі, гэта падаўленне асобы на карысць дзяржавы, на карысць імперскай ідэалогіі, гэта шлях таталітарызму. Мы з вамі знаходзіліся і знаходзімся на мяжы гэтых двух светаў, паміж Еўропай і Азіяй. І вось цяпер мы адраджаемся. Па якому шляху мы ідзём? Па шляху еўрапейскаму: адраджэнне нацыянальнае, адраджэнне нацыянальных каштоўнасцей, адраджэнне дэмакратыі. Паглядзіце, хто нам супрацьстаіць? Гэта тыя людзі, гэта тая ідэалогія, што на працягу двухсот гадоў у нас панавалі. Паглядзіце, што яны зрабілі! Знішчэнне адукацыі, знішчэнне кніг, знішчэнне гістарычнай памяці... Таталітарная ідэалогія пануе ў нас і цяпер. Вось паміж гэтымі двума светамі і ідзе барацьба. Але актыўную ролю адыгрывае якраз працэс адраджэння, таму што гэта працэс жыцця, гэта наша будучыня. І тут ставіцца пытанне: «Быць альбо не быць?» Не трэба думаць, што за адзін дзень, за адзін год прыйдзе светлае будучае. Гэта працэс доўгі і складаны. Успомніце, што было 3—4 гады назад. Крок за крокам, кропля за кропляй Беларусь адраджаецца, ідзе наперад. З'яўляюцца ўсё новыя людзі, якія разумеюць каштоўнасці нацыі. Самая вялікая аб'яднальная каштоўнасць — нацыянальная ідэя. Вось што нас усіх аб'ядноўвае і што аб'яднае ўсіх грамадзян Беларусі на шляху да дэмакратычнага грамадства...**

Дзень 27 ліпеня — свята Незалежнасці — завяршыла набажэнства ў Курапатах, якое правялі святары трох канфесій — праваслаўнай, каталіцкай і уніяцкай. Сабраліся вернікі, людзі, блізкія якіх загінулі ў сталінскіх ГУЛАГах, былыя рэпрэсаваныя грамадзяне. Акцыю правяла дабрачынная Хрысціянская злучнасць «Курапаты» на чале з дэпутатам Савецкага райсавета Менска У.Стукачам. Былі выстаўлены экспанаты будучага музея ў Курапатах — прадметы, знойдзеныя ў магілах закатаваных. Была выстава праектаў будучай мемарыяльна-архітэктурнай зоны і будучых храмаў, што плануецца ўзвесці; выстава публікацый пра Курапаты. З божым словам звярнуліся да прысутных святары.

**Ірына КРЭНЬ.**

---

***Станіслаў ВАЛОДЗЬКА***

* * *

***Бог пачуў і чуе родны краю:***
***Дудка беларуская іграе.***
***Россыпамі сонечнага рання.***
***Гэта гранне — быць людзьмі старанне.***

***Ды парой агорне смутак нейкі:***
***Грання беларускае жалейкі,***
***Дзіўных гукаў-зыкаў зёлкі-лекі***
***Ці памогуць — хто душой калекі?***

***Каб без мовы наскай не сканалі,***
***Каб жыццё з Радзімай ладкавалі —***
***Пад чужую дудку не скакалі,***
***Пад сваю жалейку смуткавалі...***

---

### З АФІЦЫЙНЫХ КРЫНІЦ

Як паведамілі Міністэрству адукацыі дэканат філалагічнага факультэта Белдзяржуніверсітэта, з 1991 г. у адпаведнасці з «Дзяржаўнай праграмай развіцця беларускай мовы і іншых нацыянальных моў у Рэспубліцы Беларусь» быў істотна павялічаны набор студэнтаў на аддзяленне беларускай мовы і літаратуры. Гэта зроблена пераважна за кошт змяншэння набору на рускае аддзяленне.

. . .

*Летась адкрылі набор студэнтаў на беларуска-рускае (75 чалавек) і руска-беларускае (30 чалавек) аддзяленні філалагічнага факультэта. Сёлета на гэтыя спецыяльнасці прынята 60 студэнтаў.*

. . .

У мінулым годзе ўпершыню быў ажыццёўлены набор (25 чалавек) на спецыяльнасць «Славянскія мовы і літаратуры» (польская мова і літаратура). На спецыяльнасць «Класічная філалогія» сёлета залічана 10 студэнтаў.

. . .

*Усе спецыяльныя дысцыпліны на філфаку БДУ выкладаюцца па-беларуску, што надае філалагічнай універсітэцкай адукацыі сапраўды нацыянальны характар і дазваляе забяспечыць установы народнай адукацыі прафесіянальна падрыхтаванымі нацыянальнымі кадрамі. Па-руску выкладаюцца толькі руская мова і літаратура.*

*Прафесарска-выкладчыцкі склад факультэта робіць шмат для падрыхтоўкі і выдання новых падручнікаў па роднай мове. За 1991–1994 гг. супрацоўнікамі філфака выдадзены тры моўныя падручнікі і адзін дапаможнік, а таксама тры беларускамоўныя спецыяльныя слоўнікі.*

. . .

Навукоўцы філалагічнага факультэта (П.Шуба, Л.Шакун, Л.Бурак) актыўна ўдзельнічаюць у рабоце арфаграфічнай камісіі, створанай урадам Рэспублікі Беларусь.

. . .

*Выкладчыкі кафедры сучаснай беларускай мовы філфака БДУ ўдзельнічаюць у распрацоўцы навучальных праграм па роднай мове, у правядзенні заняткаў па вывучэнні сучаснай беларускай мовы ў арганізацыях і ўстановах Менска, аказваюць дзейсную дапамогу супрацоўнікам сродкаў масавай інфармацыі.*

АЛЕ!

# СТАРЫЯ ПЕСНІ, ДА БОЛЮ ЗНАЁМЫЯ

У 23–24-м нумарах штотыднёвіка «Навіны Акадэміі навук Беларусі» змешчана разгорнутая рэцэнзія члена-карэспандэнта АНБ, былога дырэктара акадэмічнага Інстытута гісторыі П.Петрыкава на першы том «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі». Ужо адна яе назва – «Першы блін камяком» – красамоўна гаворыць аб агульнай ацэнцы, якую дае гэты гісторык «Энцыклапедыі». Не зважаючы на прынцыпова новую канцэпцыю развіцця Старажытнай Беларусі, распрацаваную М.Ермаловічам, экс-дырэктар па-ранейшаму ўпарта цягне старую песню. Ён піша, напрыклад, што ў IX–пачатку XII ст. беларускія землі былі часткай заходнеславянскай дзяржавы – Кіеўскай Русі, а ў канцы XVIII ст. беларусы «ўз'ядналіся» з рускімі і ўкраінцамі. П.Петрыкаў нават сур'ёзна сцвярджае, што гэта ўз'яднанне (на самай справе – анексія, акупацыя – М.В.) зберагла беларусаў як этнас, як нацыю і адкрыла гістарычную перспектыву нацыянальна-дзяржаўнага і культурнага будаўніцтва. Член-карэспандэнт падкрэслівае: смяротная кара К.Каліноўскага тлумачыцца не тым, што «Мужыцкая праўда» друкавалася па-беларуску, а тым, што яна заклікала да звяржэння царызму. Па сутнасці аўтар не пагаджаецца, што царызм праводзіў на Беларусі жорсткую палітыку русіфікацыі, скіраваную супраць беларускай культуры і мовы.

Пазіцыя П.Петрыкава вынікае перш за ўсё з таго, што ён працягвае, не тоячыся, лічыць: без матэрыялістычна-дыялектычнай марксісцкай метадалогіі навуковае асвятленне гісторыі Беларусі немагчыма. Высновы такія ўжо да болю знаёмыя. Менавіта згаданая «метадалогія» абумовіла татальную фальсіфікацыю айчыннай мінуўшчыны, прывяла наш народ да гістарычнага бяспамяцтва.

Дарэчы, гэта публікацыя толькі падкрэслівае, у якіх няпростых умовах ідзе зараз вяртанне гістарычнай праўды.

М.В.

МЕРКАВАННЕ

# МІНУЛАЕ ЯК УРОК

Усе, хто хоча праз выбары прыйсці да ўлады, мусяць шукаць падтрымкі ў «масах», а гэта значыць – гаварыць тое, што «масам» хочацца пачуць, і так, каб быць зразумелым усімі. Пераважная большасць прэтэндэнтаў на прэзідэнцкі пост таксама старалася размаўляць з народам на «общепонятном языке». Запомнілася, як незабыўны В.Кебіч у часе сустрэчы з рэктарамі і іншымі кіраўнікамі вышэйшых навучальных установаў на пісьмовае запытанне аднаго з прысутных, чаму ён выступае на рускай мове, адказаў, разводзячы рукамі, што калі б ён карыстаўся беларускай, то яго б многія «маглі не зразумець». І зрабіў выснову з гэтага: «Нельга спяшацца з мовай, яе ўкараненнем». Што ж, Кебіч дамогся свайго! Яго вельмі добра зразумелі і дружна пракацілі на выбарах. Зараз зноў новыя кіраўнікі стараюцца, каб іх «зразумелі», і грэбуюць беларускай мовай.

Ю.ШЫБІЦКІ.

*Выдавецтвам «Навука і тэхніка» за кошт Таварыства беларускай мовы надрукавана невялічкая кніга. Яе назва — «Беларусь учора і сяньня» — ды імёны аўтараў — Язэп Найдзюк і Іван Касяк, працы якіх выдадзеныя пад агульнай назвай, — ні аб чым не гавораць нават тым людзям, якія цікавяцца гісторыяй сваёй Айчыны.*

*Дагэтуль аб існаванні «Беларусі ўчора і сяньня» ведалі толькі тыя з гісторыкаў, якія мелі доступ да закрытых фондаў бібліятэкі Акадэміі навук. Тыя ж адзінкавыя асобнікі кнігі, што знаходзіліся ў прыватных бібліятэках, пільна перахоўваліся. Валоданне кнігай абяцала яе гаспадарам значныя непрыемнасці, бо яе змест не меў нічога агульнага з афіцыйнай ідэалогіяй і дзяржаўнай гістарычнай канцэпцыяй.*

*Зместу, гісторыі стварэння кнігі ды яе адпаведнасці гістарычнай канцэпцыі незалежнай Беларусі прысвечана гутарка карэспандэнта «Нашага слова» Уладзіміра Панады з Анатолем Грыцкевічам — прафесарам, доктарам гістарычных навук, выкладчыкам кафедры гісторыі Беларусі і замежных краін Беларускага ўніверсітэта культуры, удзельнікам праграмнай рады часопіса «Пшэглёнд всходні», сябрам Рэспубліканскай Рады ТБМ.*



ЧЫТАЛІ?

# «БЕЛАРУСЬ УЧОРА І СЯНЬНЯ»: НЯПРОСТЫ ШЛЯХ ДА ПРАЎДЫ

**— Імёны аўтараў кнігі — Язэпа Найдзюка і Івана Касяка — амаль не вядомыя ў Беларусі. Хто яны?**

— Галоўны аўтар кнігі — Язэп Найдзюк. Гэта чалавек незвычайнага лёсу. Ён нарадзіўся ў 1909 годзе ў вёсцы Байдакі Ваўкавыскага павета. Сын селяніна, які нават не скончыў гімназіі, бо сям'я не мела грошай. Усе веды ён набыў самавукам і ў 1926 годзе ва ўзросце семнаццаці гадоў стаў кіраўніком беларускай друкарні імя Скарыны ў Вільні. Гэта было месца, дзе друкаваліся ў той час усе беларускія кнігі. Адначасова, з 1930 па 1939 год, ён быў рэдактарам часопіса «Шлях моладзі» — выдання дэмакратычнага і патрыятычнага характару. На старонках часопіса змяшчаліся не толькі публіцыстычныя артыкулы, але і матэрыялы па гісторыі, успаміны дзеячаў беларускага нацыянальнага руху перыяду грамадзянскай вайны і пазнейшага часу. Як і мноства іншых дзеячаў беларускага руху, Найдзюк быў арыштаваны польскімі ўладамі. Гэта адбылося ўлетку 1939 года. Ён сядзеў у Бярозе Картузскай. Вызваліла Найдзюка Чырвоная армія і як ахвяру рэжыму Пілсудскага напачатку яго не чапалі. Ён пераехаў у Вільню, якая тады ўжо была перададзена Сталіным Летуве і працягнуў ранейшую працу над кнігай па гісторыі Беларусі, якой ён займаўся ўжо не першы год. Кнігу ён скончыў у 1940 годзе і адразу ж выдаў яе — лацінкай. Гэта і быў першы варыянт кнігі «Беларусь учора і сяньня». Чытачамі яго сталі беларусы Летувы, бо ў БССР прадстаўнікі ўлады да кнігі паставіліся непрыхільна.

Увосень 1941 года Найдзюк, які застаўся на акупаванай тэрыторыі, пераязджае ў Менск, дзе ствараецца Рада Беларускай народнай самапомачы. Ён прызначаецца намеснікам аднаго з сябраў Рады і адначасова працуе ў Выдавецтве школьных падручнікаў.

**— Ці не можа зашкодзіць кнізе тое, што яе аўтар супрацоўнічаў з акупацыйнымі ўладамі? Бо ж да апошніх гадоў такіх людзей агулам абвінавачвалі ў здрадніцтве...**

— Я не лічу Найдзюка здраднікам. Ніякіх дзеянняў на шкоду беларускаму народу ці дзяржаве ён не рабіў, роўна як не быў ваенным злачынцам. Ён займаўся той самай справай, што і да вайны, ды падрыхтоўваў другое выданне сваёй кнігі. Новае выданне не толькі паўтарала папярэдняе. У ім Найдзюк выкарыстаў новыя матэрыялы беларускіх, расійскіх, польскіх гісторыкаў. Таму, дарэчы, у прадмове да кнігі сам аўтар падкрэсліў яе кампіляцыйнасць. Але ягоны густ дазволіў падбіраць сапраўды найбольш значныя і найбольш цікавыя факты з прац іншых аўтараў і стылёва апрацоўваць іх, зрабіўшы кнігу па-сапраўднаму арыгінальнай. Выдадзеная ў 1944 годзе «Беларусь учора і сяньня» стала дапаможнікам для школьных настаўнікаў гісторыі. Праўда, змены ў тэкст кнігі ўносіў не толькі яе аўтар. Рэдактарам «Беларусі ўчора і сяньня» быў польскі немец па прозвішчу Сівіца, які добра ведаў беларускую мову. Гэты чалавек уставіў у кнігу раздзел аб тагачаснай Германіі і яе палітыцы ў Еўропе, паказаўшы ўсё ў лепшым свеце.

**— Упершыню я прачытаў гэтую кнігу некалькі гадоў таму і быў здзіўлены раздзеламі з адкрытым ухваленнем нямецкай палітыкі пасля 1933 года...**

— Менавіта гэтая частка напісана не Найдзюком. Таму, рыхтуючы кнігу да выдання, выдаўцы і я сам вырашылі скасаваць у новым выданні ўсе не аўтарскія тэксты. Акрамя таго, у другім выданні Сівіцам былі выключаныя ўсе згадкі пра Грунвальдскую бітву, у якой беларуска-літоўскія і польскія войскі разбілі немцаў. Таму ў апошнім выданні гэтыя матэрыялы аднаўленыя паводле першага.

**— Аб гістарычных падзеях даўняга часу пісалі многія аўтары. Але ці мае праца Найдзюка нейкую адметнасць у параўнанні з гістарычнымі даследаваннямі ягоных папярэднікаў — Ігнатоўскага ці Ластоўскага?**

— У аднаўленым выглядзе кніга Найдзюка вельмі цікавая тым, што ў ёй змешчана шмат матэрыялаў з навейшай гісторыі Беларусі: і ў першую чаргу — аб нацыянальным руху ў Заходняй Беларусі, пачынаючы з Віленшчыны як яе цэнтра. Пра гэта ў БССР ніхто не пісаў. Там ёсць звесткі пра Слуцкае паўстанне, цытуецца шмат дакументаў таго часу. Фактычна, менавіта Найдзюк першым напісаў пра Слуцкі збройны чын. У кнізе шмат звестак пра Першую беларускую канферэнцыю ў Празе чэшскай 1921 года, калі нацыянальныя дзеячы абагульнялі набытае імі дасведчанне барацьбы за незалежнасць Беларускай Народнай Рэспублікі, выпрацоўвалі тактыку, вызначалі сваё стаўленне да Польшчы, БССР і СССР увогуле. Усё гэта надае вельмі значную вартасць кнізе Язэпа Найдзюка.

**— Другую частку выдадзенай цяпер кнігі складае праца Івана Касяка, якая датычыць падзей часу нямецкай акупацыі і лёсу паваеннай беларускай эміграцыі. Што Вы можаце сказаць аб ёй?**

— Тут ізноў трэба пачаць з асобы аўтара. Іван Касяк — не такі ўжо просты чалавек. Ён пражыў складанае жыццё: вучыўся ў Вільні, а ў 1941 годзе, яшчэ перад вайной, атрымаў у Львове дыплом інжынера. З пачаткам вайны застаўся на акупаванай тэрыторыі Беларусі. У адрозненне ад Найдзюка, Касяк цікавіўся палітыкай. Ён уваходзіў у групу праваслаўных дзеячаў, якая выказвала вялікую грамадскую актыўнасць. Гэтая група мела напружаныя, нават канфліктныя адносіны з беларускімі дзеячамі-каталікамі — аб гэтым пісаў Язэп Малэцкі ў сваёй кнізе «Пад знакам Пагоні». І гэта перашкаджала беларускаму руху.

Асаблівасці светапогляду гэтага чалавека адбіліся і на ягонай працы. Вядомыя гістарычныя падзеі часоў акупацыі ён падае са свайго пункту гледжання. Тым не менш, ён прыводзіць вельмі цікавыя факты, якія характарызуюць нямецкую акупацыйную палітыку. У кнізе змешчаны апісанні першых крокаў беларускіх актывістаў, легальна дзеючых ва ўмовах акупацыі. Чытаючы працу Касяка, мы даведваемся аб тым, як частка дзеячаў з тых, што пайшлі на калабарацыю, праз нейкі час пакінула свае пасады ў нямецкай цывільнай адміністрацыі. Мы бачым, на што былі накіраваны высілкі ваеннай адміністрацыі і розныя спосабы дзеяння цывільнай у выніку змены складу людзей, якія яе падтрымлівалі. Гэта сапраўды цікава. Праца Касяка інфармуе аб дзейнасці Беларускай Цэнтральнай Рады, Беларускай незалежніцкай партыі. Але трэба мець на ўвазе тое, што ў кнізе пададзены пераважна асабістыя ўражанні аўтара.

Цікавая апошняя частка яго кнігі, якая ўтрымлівае звесткі аб паваеннай беларускай эміграцыі — напачатку ў Германіі, а потым у Канадзе, Аўстраліі, Злучаных Штатах Амерыкі, Англіі. Касяк вельмі добра паказвае існаванне ў беларускай эміграцыі двух палітычных цэнтраў — Беларускай Народнай Рэспублікі, якая ахоўвала прынцыпы беларускай дзяржаўнасці, пачынаючы з Прагі, ды Беларускай Цэнтральнай Рады, створанай у 1944 годзе Астроўскім.

**— Падача ў працы Івана Касяка гістарычных падзей часам значна розніцца ад трактавання іх іншымі гісторыкамі, напрыклад Юрыем Туронкам у ягоных кнігах «Беларусь пад нямецкай акупацыяй» ці «Вацлаў Іваноўскі і адраджэнне Беларусі». Наколькі аб'ектыўны ягоны погляд?**

— Калі Язэп Найдзюк рабіў усё, каб не прытрымлівацца ніводнага з бакоў і найбольш дакладна інфармаваць чытачоў аб падзеях, дык пра Івана Касяка можна сказаць, што ён — чалавек з пэўнымі прыхільнасцямі. Ён выказвае погляды менавіта сваёй праваслаўнай групы, і гэта вельмі істотна. Гэтыя людзі не лічыліся з поглядамі і дзейнасцю іншых груп, і падобных жа поглядаў да канца прытрымліваўся Касяк. Гэта адбілася і ў іншых ягоных працах, дзе ўсё разглядаецца з пункту гледжання Беларускай праваслаўнай царквы. Але ж ён не ўлічваў таго, што праваслаўная царква ў Беларусі была і застаецца Рускай праваслаўнай царквой. І ў выніку таго жаданае Касяк часам выдае за рэчаіснае. Таму яго кнігу трэба разглядаць хутчэй не як навуковую працу, а як успаміны, і ўспаміны даволі суб'ектыўныя. Хаця я яшчэ раз падкрэсліваю, што яна ўтрымлівае шмат цікавых фактаў.

**— Значная частка кнігі «Беларусь учора і сяньня» прысвечана падзеям Другой сусветнай вайны. Якую, на Ваш погляд, рэакцыю можа выклікаць гэтая кніга ў грамадстве, значная частка прадстаўнікоў якога дагэтуль называе нямецка-савецкую вайну Вялікай Айчыннай?**

— Рэакцыя? Нехта атрымае партыйнае спагнанне! Ну, гэта жарт. А наконт стаўлення да кнігі... Яе першае выданне выйшла ў 1940 годзе. Тады яшчэ не было вайны і яе прасавецкі настроеных ветэранаў. Людзі не цалкам разумелі, у якой сістэме яны жывуць. Злачынствы фашызму і камунізму былі амаль невядомыя свету. Людзі не ведалі шмат чаго. Але сёння мы мусім ведаць уласную гісторыю. Таму гэтая кніга патрэбная менавіта як навукова-папулярнае выданне. «Беларусь учора і сяньня» — нацыянальная кніга. Хай яна мае хібы, хай аўтары рабілі асобныя памылкі. Але галоўнае — канцэпцыя кнігі адпавядае сённяшняй нацыянальнай гістарычнай канцэпцыі, прапанаванай Інстытутам гісторыі і падтрыманай усімі гісторыкамі.

**— Кніга, аб якой ідзе гутарка, выдадзена Таварыствам беларускай мовы. Вашае меркаванне аб гэтым як аднаго з кіраўнікоў Таварыства?**

— Гісторыя народа — такая ж непадзельная частка яго культуры, як і мова. Таму я лічу, што выданне «Беларусі ўчора і сяньня» цалкам адпавядае і агульнаму накірунку дзейнасці ТБМ, і яго выдавецкай палітыцы. Адзіным недахопам выдання з'яўляецца яго малы наклад — 10 000 паасобнікаў. Бо ж кнігі Ігнатоўскага і Ластоўскага аб гісторыі Беларусі сталі сапраўднымі бестселерамі. Таму я ўпэўнены, што падобны лёс чакае і гэтае выданне. Выпускам яго ў свет можна ганарыцца. І *самае галоўнае* — не трэба звяртаць увагі на тое, як да яго паставяцца антыбеларускія сілы.

**— Гэта значыць, што кніга не страціла сваёй актуальнасці?**

— Яна патрэбная і сёння, бо напісаная людзьмі, якія любілі свой край. Іхнія палітычныя перакананні цяпер, пасля смерці аўтараў, нічога не значаць. Засталіся іхнія працы — каштоўныя дакументы гісторыі Беларусі.

Распытваў **Уладзімір ПАНАДА.**

# КАБ ЛЮБІЦЬ БЕЛАРУСЬ СІНЯВОКУЮ

***Вось ужо 10-ы год, як у сярэдняй школе № 1 старадаўняга падольскага горада Ізяслаў, што месціцца па абодва бакі ракі Гарынь на Украіне, ракі, якая нясе свае воды на Беларусь, дзе ўліваецца ў больш магутную Прыпяць, з маёй ініцыятывы і пры падтрымцы дырэктара школы Аляксея Гуменюка існуе гурток, у якім дзеці знаёмяцца з культурай братняга беларускага народа, і сярод гэтых дзяцей ёсць нямала хлопчыкаў і дзяўчынак, чые бацькі ці бабулі або дзядулі з'яўляюцца ўраджэнцамі сінявокай сястры Украіны — Беларусі...***

Па апошняму перапісу насельніцтва СССР у нашым горадзе і раёне пражывала 142 чалавекі беларускай нацыянальнасці, многія з іх, у тым ліку і я, ніколі не парываюць повязей з Бацькаўшчынай, зямлёй, дзе мы нарадзіліся і выраслі, дзе навучыліся размаўляць на такой мілагучнай мове, якую славуты наш зямляк з Навагрудчыны Адам Міцкевіч назваў «самай чыстай славянскай мовай». Таму на гарадской пошце не дзівіліся шматлікім экземплярам газет і часопісаў, якія выпісвалі беларусы Ізяслава. Асабліва шмат падпісчыкаў мелі такія газеты, як «Звязда», «Літаратура і мастацтва», «Піянер Беларусі», «Чырвоная змена», часопісы «Беларусь», «Работніца і сялянка», «Вожык», «Бярозка». З цікаўнасцю чытаюць прэсу з Беларусі і ў гуртку беларускай культуры «Зорка Венера». Чытаюць і мае калегі-выкладчыкі і вучні школы, для якіх беларуская мова блізкая і зразумелая, бо беларусы і ўкраінцы заўсёды разумелі адзін другога без перакладчыкаў. У гэтай сувязі дазволю сабе прачытаць вось гэтыя радкі верша вядомага беларускага паэта Сяргея Панізніка, які некалькі год жыў і вучыўся ў сталіцы Галіччыны Львове:

*Калісьці паміж двух шнуроў пшаніцы*
*Спыніліся двое на мяжы плугі.*
*І з іх адзін назваўся ўкраінцам.*
*І беларусам вызнаўся другі...*
*Абодва селі, і на родных мовах*
*Паміж сабой гаворку павялі*
*І стала іх ратайская размова*
*Найлепшай дыпламатыяй зямлі...*

Дык чаму ж у Ізяславе перасталі трапляць газеты і часопісы незалежнай і суверэннай краіны, імя якой Беларусь? Адказ даволі просты і празаічны — падпісацца сёння на Украіне на беларускія газеты і часопісы можна толькі тым, хто мае расійскія рублі, і на тыя выданні, якія ўключаны ў расійскі каталог падпісных выданняў. Ва ўкраінскім каталогу, апроч украінскіх газет і часопісаў, ёсць некалькі назоваў расейскіх газет і часопісаў, якія можна выпісаць за ўкраінскія карбаванцы. Расейцы Украіны могуць выпісаць для сябе хай і не ўсё, што хацелася б, а вось беларусы Украіны не могуць сабе на роднай мове выпісаць нічога! Наш урад «забыўся» пра нас. Не дагаварыліся з сувязістамі Украіны, каб дазволіць беларусам падпіску на самыя папулярныя газеты і часопісы, хаця б па 5 назоваў, беларускіх на Украіне і ўкраінскіх у Беларусі. Няўжо гэта так цяжка было б зрабіць? Думаю, што не, трэба толькі захацець.

Уладзімір Белазор, начальнік зводна-аналітычнага аддзела Дзяржаўнай міграцыйнай службы пры Дзяржкампрацы Рэспублікі Беларусь, лічыць, што «беларус па прычыне свайго менталітэту можа жыць паўсюль, ён лёгка адаптуецца да чужой культуры...» Цікава, ці жыў спадар Белазор па некалькі гадоў за межамі Беларусі? Відаць, што не, раз ён з такой лёгкасцю лічыць, што кожны беларус «лёгка адаптуецца на чужой культуры»... Лічу, што такія меркаванні пабудаваны не на жыцці беларусаў замежнай дыяспары, а на ўласна тых «тутэйшых», якія сапраўды здрадзілі сваёй нацыі і прапагандуюць чужую, у даным выпадку, расейскую культуру, калі яны не толькі размаўляюць па-расейску, але і чытаюць расейскую прэсу, расейскую літаратуру, глядзяць толькі праграмы расейскага тэлебачання. Па іх рабіць вывад аб усіх беларусах зусім не абавязкова. Беларусы далёкага і блізкага замежжа вызначаюцца перш за ўсё тым, што з'яўляюцца патрыётамі Радзімы, у далечыні ад яе зберагаюць мову бацькоў, цікавяцца беларускай гісторыяй, літаратурай, штодзённа ловяць хвалі радыё Менска, каб наталіць смагу, паслухаўшы мову, якая заўсёды ў нашых думках...

Дарэчы, як пачынаўся гурток «Зорка Венера»? У далёкім ужо 1983 годзе ўпершыню ў Ізяславе ў сярэдняй школе і пачулі на адной з вучнёўскіх імпрэз жывую беларускую мову. А было гэта з нагоды святкавання чарговых угодкаў з дня нараджэння Тараса Шаўчэнкі, на якой я прачытаў перапоўненай зале верш нашага славутага песняра Янкі Купалы — урывак з паэмы «Тарасова доля».

*Чаму ў сэрцы беларускім*
*Песня Тарасова адгукнулася, запела*
*Зразумелым словам?*
*Чаму вецер з Украіны з думкаю крылатай*
*Даляцеў да Беларусі і шумеў над хатай?*
*Бо йшла доля беларуса з доляй украінца*
*Адналькова — у поце, у слёзах,*
*Церневым гасцінцам.*
*Бо згіналі адналькова змалку да сканання*
*Шыі ў ёрмах і чакалі яснага світання.*
*Як жылося, як вялося, як марнелі сілы,*
*Таму сведкай там і тутка курганы, магілы...*

На другі дзень пасля імпрэзы да мяне звярнуліся вучаніцы 4-«Б» класа Жана Хеленюк і Надзейка Сундзіна, каб я расказаў ім больш пра Янку Купалу, які так хораша напісаў пра Тарасову долю... Я з радасцю пагадзіўся, і наш гурт з дзвюх вучаніц вырас да 15. І ўсе гады вучобы ніхто з іх не пакінуў заняткаў у гуртку «Мова нашых пабрацімаў». За 7 гадоў, што правялі яны над беларускімі кніжкамі, мае выхаванцы палюбілі не толькі беларускую мову, літаратуру, але яны цікавіліся і гісторыяй Беларусі, якая ў нечым нагадвала ім і гісторыю Украіны, любілі мае гурткоўцы і затанчыць беларускі народны танок «Лявоніху», заспяваць «Касіў Ясь канюшыну» ці «Ой, і сеяла Ульяніца лянок»... Безумоўна, усё гэта павінен быў умець рабіць і я сам! Як кажуць, стараўся як мог, і сёння, калі бачу сваіх былых гурткоўцаў, якія ўжо два гады як скончылі школу, яны стараюцца са мною прывітацца і пагаварыць на беларускай мове. Для мяне няма большай і лепшай узнагароды пачуць з іх вуснаў роднае для мяне беларускае слова. Канешне, у тыя часы рабіць беларускую справу было лягчэй: можна было кожнаму гурткоўцу выпісаць свой экземпляр газеты «Піянер Беларусі», часопісаў «Вясёлка», «Бярозка», кожны меў таксама падручнікі беларускай мовы, падручнікі літаратуры, асобныя томікі паэзіі Купалы, Коласа, Багдановіча, Броўкі, Танка, Панчанкі, прозы Васіля Быкава, Алеся Адамовіча, Уладзіміра Караткевіча... Працаваць было лёгка ў той меры, што не трэба было ламаць галаву, чым забяспечыць вучэбны працэс — падручнікаў і дапаможнікаў хапала: сам прывозіў з вандровак на Беларусь, дасылалі шмат сябры па перапісцы, бо ўсё было танна, каштавала капейкі...

Сёння сітуацыя пагоршылася, і значна. Няма падпіскі на беларускія газеты і часопісы; кошты кніг проста астранамічныя для настаўніка, які атрымлівае ў месяц каля 500 тысяч украінскіх карбаванцаў: адна кніга каштуе ад 38 да 100 тысяч карбаванцаў. Таму я не магу нават для сваёй уласнай бібліятэкі набыць усё, што патрэбна для работы гуртка беларускай культуры, які зараз мае назоў «Зорка Венера». На дапамогу мне прыйшлі супрацоўнікі Рэспубліканскай навукова-педагагічнай бібліятэкі з Менску (дырэктар бібліятэкі спадарыня Шамелава), якія дасылаюць нашаму гуртку неабходныя падручнікі па беларускай мове, літаратуры, гісторыі, слоўнікі, кнігі беларускіх пісьменнікаў. Ад свайго імя і ад імя дзяцей і іх бацькоў хачу яшчэ раз выказаць спадарыні Шамелавай і ўсяму дружнаму калектыву бібліятэкі шчырую падзяку за ўсё, што яны зрабілі і робяць для нас!

У мінулым навучальным годзе ў мяне была новая група дзяцей-шасцікласнікаў, якія навучыліся пісаць і чытаць па-беларуску, бегла размаўляць на мове сваіх заходніх суседзяў. Шмат увагі надавалася знаёмству з культурай беларускага народа: гэта і асобныя спрэчныя моманты з гісторыі Беларусі, яе дойлідства і выяўленчае мастацтва, фальклор і сучасная эстрадная песня, дэталёвае азнаямленне з творчасцю двух беларускіх класікаў — Максіма Багдановіча і Янкі Купалы. Я вучэбны год падзяліў на два перыяды: першы — багдановічаў і другі — купалаў. Наш гурток мае назову назоў «Зорка Венера», маем запіс песні ў дасканалым выкананні капэлы пад кіраўніцтвам Рыгора Шырмы, і кожны занятак гуртка пачынаецца з праслухоўвання гэтай песні, дзеці ўжо пачынаюць і самі падпяваць харыстам. У класе на відным месцы вісіць партрэт Максіма Багдановіча, а пад ім вось гэты верш Янкі Сіпакова:

*Ён навучыў, здаецца, гаварыць*
*Па-беларуску нават кіпарысы,*
*Барвінак на магільніку гарыстым*
*Ён навучыў, здаецца, гаварыць...*

Мне здаецца, што гэтыя радкі Янкі Сіпакова не пашкодзіла б павесіць разам з партрэтам Максіма Багдановіча і ў сценах Дома ўрада Беларусі, беларускага парламента, на відных месцах беларускіх гарадоў і вёсак, каб кожны, хто забыўся матчыну мову, схамянуўся, апамятаўся, пакуль яшчэ не позна, пакуль яшчэ хоць сярод дыяспары беларускага замежжа на ўсю моц гучыць голас беларуса па-беларуску! Безумоўна, я магу шмат гаварыць пра навучанне дзяцей-украінцаў украінскай школы беларускай мове, але галоўны сэнс, спадзяюся, вы зразумелі: прывіваць любоў і павагу да беларускай культуры не толькі сярод беларусаў замежжа, але і сярод таго народа, з якім нам даводзіцца жыць...

**Пятрусь КАПЧЫК,**
**філолаг,**
г.Ізяслаў, Украіна.

**ЗАМЕЖЖА** **ЗАМЕЖЖА**

# ТРЫВОГА БЕЛАРУСАЎ КАНАДЫ

З канадскага Квебека прыйшоў чарговы — чацвёрты — нумар часопіса «Прамень». Сярод матэрыялаў, якія адкрываюць гэты выпуск выдання беларускіх эмігрантаў, — рэдакцыйны артыкул-зварот «І зноў трывожна б'ецца сэрца». Як тут не пагадзіцца з пякуча праўдзівымі словамі нашых землякоў: «І зноў неспакойна на сэрцы, і зноў трывожна на свеце. Здаецца, што тая пачвара, ад якой пазбавіліся шматлікія краіны былой «сацыялістычнай садружнасці», зноў спакваля вылазіць на свет, спрабуючы ўзяць рэванш за сваю паразу.

Пачвара гэтая, імя якой — чырвоны таталітарызм, вылезла там, дзе не праводзілася барацьба за пераадоленне гэтай ракавай пухліны грамадства. І цяжка і сорамна ўсім свядомым беларусам, бо краіна гэтая — нашая Бацькаўшчына — Беларусь».

Алесь Мяцеліца і Ларыса Храноўская расказваюць у сваіх карэспандэнцыях пра адраджэнне парафіі Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы ў Манрэалі. Анатоль Храноўскі інфармуе чытача пра пасяджэнне галоўнай управы Згуртавання беларусаў у Квебеку. Сярод пытанняў, якія абмяркоўвалі землякі, — клопаты, звязаныя з выданнем «Праменя». Большасцю галасоў на пасяджэнні было вырашана, што часопіс павінен існаваць, выдавацца. Але вельмі няпростая гэтая справа, бо патрабуе шмат сродкаў. На пасаду рэдактара «Праменя» прызначылі спадара Рамана Кардонскага. У рэдакцыйную калегію ўвайшлі Ларыса Храноўская, Анатоль Храноўскі, Валодзя Бельмач.

Выразна публіцыстычны, больш таго — завострана палітычны характар носяць артыкулы Міхала Белавуса «Што гэта такое «дружба народаў» па-расейску?» і Рамана Кардонскага «Нет такого народа! Мы все российский народ?!» Аўтары ўступаюць у гарачую спрэчку з тымі, хто адмаўляе беларусам у іх святым праве беларусамі звацца. «Прамень» знаёміць чытачоў з паэтычным творам Валодзі Бельмача «Пустое гняздо». Наш зямляк дзеліцца сваімі ўражаннямі пасля наведвання родных мясцін — вёскі Пранчакі Ляхавіцкага раёна.

**Ганна ЦІТАЎКА.**

Мікалай КРЫЎКО

# СЛОЎНІК СІНОНІМАЎ

(Заканчэнне артыкула на слова **ПАМЕРЦІ**)

**СПУСЦІЦЬ** (або **ВЫ́ПУСЦІЦЬ**) **ДУХ** размоўнае (пра чалавека, які толькі што памёр у каго-небудзь на вачах) *Ішоў кустамі Карл па кашу – і дух спусціў ад кулі нашай* (прыказка), **АДДА́ЦЬ ДУХІ́** разм. *Таццяна.. вяла махнула рукой і глуха вымавіла: – Ану вас... Чуць духі не аддала* (Новікаў), **ДУ́ХУ НЕ ЎКАЗА́ЦЬ** разм. *Бушмар як стаяў, кінуўся наперад і грукнуў кулакамі паручніку ў грудзі. Той адно звіўся Бушмару пад ногі і духу не ўказаў* (Чорны), **ДУ́Х ВОН** *у каго* або *з каго*; разм. (раптоўна памёр) *Упаў ён [Кашчэй] – і паганы дух з яго вон* (Якімовіч), **ДУША́ ВОН** (або ПРЭЧ) *з каго*; разм. (раптоўна памёр) *[Курыдзе:] Адзін стрэл – і душа з вас усіх вон пойдзе!* (Самуйлёнак). *[Ляснік:] Але – душа з яго прэч! – нас ён не перахітрыць!..* (Шамякін), **ЗАГАВЕ́ЦЬ ДУШОЙ** (або **ДУШО́Ю**) разм. *Свайго жыцця я бачыў марнасць Аж на сябе я рукі ўзняў. Але не суджана было мне Душой без часу загавець* (Купала), **АДДА́ЦЬ БО́ГУ ДУШУ́** або **АДДА́ЦЬ ДУШУ́** разм. *Падскочыла запаленне лёгкіх. і на што ўжо быў стары корч здаровы, а на чацвёртыя суткі зусім аслаб і Богу душу аддаў* (Машара). *Калі ехаў тым балотам,.. чуў, як халадзее ўсярэдзіне: трэба ж, ледзь не аддаў душу за нішто* (Мележ), **АДПРА́ВІЦЦА** (або **ПАДА́ЦЦА**) **НА ТОЙ СВЕТ** разм. *Бяда не ходзіць адна. Услед за дзедам, мо праз год, адправіўся на той свет і Міхасёў бацька* (І.Капыловіч), **АДПРА́ВІЦЦА ДА СВЯТЫ́Х НА ЧАЙ** (або **ЧАЙ ПІЦЬ**) разм.-жарт., **АДПРА́ВІЦЦА** (або **ПАЙСЦІ, ПАЕХАЦЬ, ТРАПІЦЬ**) **ДА АБРА́МА** (або **ДА АБРАГА́МА**) **НА ПІВА** разм.-жарт. *Сягоння еду ў Менск і думаю пабываць у доктара, а то ўжо пачынаю баяцца, каб не пайсці да Абрагама на піва* (Купала). *Так і не штука захварэць і да Абрама на піва трапіць* (Колас), **НАКАЗА́ЦЬ** (або **ЗАГАДА́ЦЬ**) **ДО́ЎГА ЖЫЦЬ** *На досвітку конна прымчаўся аб'ездчык Ксавэры і сказаў: – Ну, Міхале, пан ляснічы наказаў нам доўга жыць* (С.Александровіч). *Стары пан загадаў усім доўга жыць* (Лынькоў), **СМЕРЦЬ УЗЯЛА́** *каго; Як смерць возьме, усё гіне: Нядоля, нядоля, – Спакой толькі ў дамавіне, Ў дамавіне доля!* (Купала), **ПРЫБРА́Ў** (або **ПРЫНЯ́Ў**) **БОГ** *каго*; разм. *Як прыбярэ мяне Бог з гэтага свету, дык яму і змяніцца не будзе ў што* (Крапіва), **З КАПЫЛО́Ў ДАЛО́Ў** разм. *Сэрца, яно – матор. Сапсуецца – з капылоў далоў. Не беражэцеся вы, маладыя* (Быкаў), **АДДА́ЦЬ КАНЦЫ́** грубае разм. *А ўжо крыху пакачаюся ды, мусіць, канцы аддам* (Губарэвіч), **ДАЦЬ** (або **ЎРЭ́ЗАЦЬ**) **ДУ́БА** груб. разм. *Няхай яму калом зямля будзе, калі ён ужо дуба даў* (Чорны), **ВЫ́ЦЯГНУЦЬ** (або **ПРАЦЯГНУ́ЦЬ, ВЫ́ПРУЦІЦЬ, ВЫ́ПРАСТАЦЬ**) **НО́ГІ** разм. *Пайсці мне ў вашу бальніцу, значыць і ногі там выцягнуць* (Галавач). – *Па вашай помашчы дайно б ногі працягнуў* (Шамякін). *Як каніны аб'еўся, дык разам і ногі выпруціў* (Казкі і легенды). *Будзеш ляжаць, покі з голаду ног не выпрастаеш, – горка азваўся дзед Пілін* (Колас), **АДКІНУЦЬ КАПЫТЫ́** разм. *Без гумару тут можна і капыты адкінуць. А смяешся, значыцца жывы* (Гаўрылкін), **АДКІНУЦЬ ХВОСТ** разм. *Так хочацца стукнуць гэту падлюку па макаўцы, каб і хвост адкінуў!* (Мележ), **ЗАДРА́ЦЬ НО́ГІ** разм.груб. *Хіба гэта чалавек?.. Мезеным пальцам карпануць, дык ён і ногі задзярэ* (Мурашка), **ЗАДРА́ЦЬ КАПЫТЫ́** разм. груб. *Адны кляліся, бажыліся – няма яго жывога..; другія, хітрэйшыя, круцілі галовамі, не згаджаліся, маўляў, памыляецеся, такія не хутка задзіраюць капыты* (Сачанка), **ЗАГРЫМЕ́ЦЬ НАГА́МІ ЎПЕ́РАД** разм., індывідуальна-аўтарскае *І загрымець нагамі ўперад Прасцей, Чым выйсці з лесу ў поле* (Барадулін), **ЗАГІБЕ́ЦЬ** разм. *Каб не перавязлі яго ў цёплыя вуглы, каб не папрасіла Балюта, загібеў бы тады Рукалееў* (Пташнікаў), **СКАРЧАНЕ́ЦЬ** разм. *Карчыстыя [старыя людзі] нарэшце скарчанелі, пайшлі спачыць на вечны выхадны* (Летка), **ДА́ЦЦА** груб. разм. *Сустрэў Алёшу, і той, як пра нешта будзённае, ляпнуў: «А ці ведаеш ты, што твой Вапшчэткі даўся...»* (Кудравец), **ЗАГНУ́ЦЦА** груб. разм. *Казалі, у лагер адправілі, недзе і загнуўся стары* (Быкаў), **ЗДЫ́РДЗІЦЦА** груб. разм. *Каб не гэтыя праходкі сюды, пэўне, дайно здырдзіўся б стары* (Шынклер), **СКАПУ́ЦІЦЦА** груб. разм., **СКАПЫ́ЦІЦЦА** груб. разм. *І дзед злуецца ды гадае, калі скапыцяцца паны* (Колас), **ВЫ́ЦЯГНУЦЦА** груб. разм. *Але ўстаць ужо не мог, ды так і выцягнуўся на леташняй калючай траве ў маліннiку* (Быкаў), **ВЫ́ПРУЦІЦЦА** груб. разм. *Хутчэй яны выпруцяцца, чым нас на калені паставяць* (Лынькоў), **АПРУЦЯНЕ́ЦЬ** груб. разм. *Ледзьве не апруцянеў я з голаду* (Самуйлёнак), **СПРУЦЯНЕ́ЦЬ** груб. разм. – *А мы вас чакалі!.. ды не ведалі, хто першы тут паедзе – ці вы, ці гэтыя, каб яны спруцянелі, нягоднікі* (Мележ), **АПРЭ́ГЧЫСЯ** груб. разм. *Ну і народ, каб ён апрогся! Так запусціць зямлю нядбала?* (Колас). *Юрка не скажа Акцызніку ні слова, ён яго зусім не чуе, хай той крычыць, аж апражэцца, – ён думае зусім-зусім пра другое* (Пташнікаў), **ЗДО́ХНУЦЬ** груб. разм. *Так і здохнеш адзін, у зямлю закапаюць, і не ўспомніць ніхто, што жыў на свеце такі вось Платон Шабуня...* (Чарнышэвіч). *Каб не клін ды не мох, цясляр з голаду б здох* (з народнага), **ПАДО́ХНУЦЬ** груб. разм. *Так і хаваюся... Мусіць, прыйдзецца ўжо ў лесе і падохнуць* (Пестрак), **АКАЛЕ́ЦЬ** груб. разм. – *А я думала, ці не акалеў часам! – пакпіла Ганна. – Стаіць, як слуп пры шляху!* (Мележ). – *Незаконачанае трыванне:* **Паміра́ць, уміра́ць, кана́ць, згаса́ць, засына́ць, адыхо́дзіць, ісці́** (або **адыхо́дзіць**) **ад нас, пакіда́ць нас, пакіда́ць гэты свет** або **пакіда́ць свет, пакіда́ць зямлю, ісці́** (або **адыхо́дзіць, сыхо́дзіць**) **на той свет, адыхо́дзіць** (або **ісці́**) **у іншы свет, адыхо́дзіць у ве́чнасць, ісці́** (або **сыхо́дзіць**) **у зямлю́** (або **ў магі́лу**), **лажы́цца** (або **кла́сціся**) **у зямлю** (або **ў магі́лу, у труну́, у дамаві́ну, у ве́чную пасце́ль**), **сыхо́дзіць з зямлі́** (або **са све́ту**), **сыхо́дзіць у труну́** (або **ў дол**), **сыхо́дзіць са сцэ́ны (жыцця́)**, **засына́ць наве́кі** (або **наве́к, назаўсёды, ве́чным сном**), **сыхо́дзіць на ве́чны спако́й, сыхо́дзіць у цішыню́, развітвацца** (або **разлуча́цца**) **з жыццём, расстава́цца са све́там, разлуча́цца** (або **развітвацца**) **з душо́й** (або **з душо́ю**), **заруча́цца з Бо́гам, браць шлюб** (або **жані́цца**) **з зямлёй** (або **з зямлёю**), **сыхо́дзіць, валі́цца, кла́сціся, сашчэ́пліваць** (або **сашчапля́ць, зго́ртваць**) **ру́кі, скла́дваць** (або **складаць**) **ру́кі, ісці́ на ве́чны выхадны́, канча́ць жыццё, спуска́ць** (або **выпуска́ць**) **дух, аддава́ць духі́, аддава́ці Бо́гу душу́** або **аддава́ць душу́, адпраўля́цца** (або **падава́цца**) **на той свет, адпраўля́цца да святы́х на чай** (або **чай піць**), **адпраўля́цца** (або **ісці́, е́хаць, трапля́ць**) **да Абра́ма** (або **да Абрага́ма**) **на піва, аддава́ць канцы́, выця́гваць** (або **праця́гваць, выпру́чваць, выпро́стваць**) **но́гі, адкі́дваць капыты́, адкі́дваць хвост, задзіраць ногі, задзіраць капыты́, загіна́цца, выця́гвацца, выпру́чвацца, здыха́ць, падыха́ць.**

1. Супастаўляльныя часткі складаназлучанага сказа, якія звязаны злучнікамі **а, ж(жа), але, ды** (у значэнні **але**), **аднак, затое** і інш., звычайна аддзяляюцца пры дапамозе коскі: *Расце мята ў агародзе, а на градах цвіце мак* (П.Трус). *Мікіта моцна пастукаў у дзверы, аднак з кабінета ніхто не адазваўся* (Міхась Зарэцкі). *Працавіты наш дзень адпачыць адышоў, толькі стужка зары дагарае над садам* (Максім Танк).

**Заўвага 1.** У складаназлучаных сказах са злучнікам **ж(жа)** коска ставіцца перад тым членам другой прэдыкатыўнай часткі, пасля якога размешчаны гэты злучнік: *Сёмка пайшоў у мястэчка, Рыгор жа застаўся дома* (Цішка Гартны).

*яшчэ працуюць людзі – затое ў лесе зусім ужо цёмна* (Т.Хадкевіч).

Калі паміж прэдыкатыўнымі часткамі існуе большая паўза, якая ўзмацняе і лагічна падкрэслівае кантрастнасць супастаўлення, а самі часткі з'яўляюцца развітымі і вызначаюцца аслабленай сувяззю паміж сабой, тады можа ставіцца коска з працяжнікам: *Пастух загаварыўся, – а каровы ў жыце!* (М.Гарэцкі). *На паратунак беглі людзі, – ды паратунак бедны будзе* (У.Дубоўка). *Сёння на брацкіх магілах вербы, хвaіны павырасталі, – толькі ў грудзях не загаіліся раны* (М.Танк).

**Заўвага.** Калі супастаўляемы член у другой прэдыкатыўнай частцы падкрэслены лагічна, тады перад ім ставіцца працяжнік, а перад

УДАКЛАДНІМ

*Л.БУРАК,*
*заслужаны работнік народнай адукацыі, доктар філалагічных навук, прафесар*

## ЗНАКІ ПРЫПЫНКУ Ў СКЛАДАНАЗЛУЧАНЫХ СКАЗАХ

### б) Складаназлучаныя сказы з супастаўляльнымі часткамі

**Заўвага 2.** Калі ў якасці злучніка ўжываецца слова **наадварот**, якое сумяшчае і пабочнае значэнне, то коска ставіцца не толькі перад гэтым словам, але і пасля яго: *Непрыемнага адчування не было, наадварот, цела поўнілася бадзёрасцю* (І.Шамякін).

**Заўвага 3.** Калі перад словам **наадварот** размешчаны злучнікі **і, а**, то пры поўнай структуры другой прэдыкатыўнай часткі яно выдзяляецца знакамі прыпынку як пабочнае слова: *У патэнцыяльнай частцы патоку з павелічэннем скорасці ціск змяншаецца і, наадварот, са змяншэннем скорасці ціск узрастае* («Весці АН БССР»).

Але калі слова **наадварот** разам са злучнікамі **і, а** ўжываецца ў ролі другой прэдыкатыўнай часткі складаназлучанага сказа, то коска паміж імі не ставіцца: *Сухое надвор'е не спрыяе ўраджайнасці агуркоў, а наадварот* («Звязда»).

2. Пры рэзкім супастаўленні паміж прэдыкатыўнымі часткамі складаназлучанага сказа ставіцца працяжнік: *Іх аднолькавы пуціны – ды не сходзяцца яны* (Якуб Колас). *На полі* злучнікам – коска, напрыклад: *Малы жук, ды – вялікі гук* (І.Мележ). *Цеснавата, затое – весела* (Я.Брыль).

3. Калі супастаўляльныя часткі складаназлучанага сказа з'яўляюцца развітымі (іншы раз са сваімі знакамі прыпынку) і вызначаюцца пэўнай самастойнасцю, то яны аддзяляюцца кропкай з коскай: *У позні вечар над лесам узышоў месяц; але яго неўзабаве паступова пачалі зацягваць хмары* (І.Мележ). *Пятрок, седзячы на лаве, шыў аброць і сварыўся; жонка ж яго касцістымі і худымі, цьмянымі, нібы ад загару, рукамі мяшала ў цэбры мякіну* (М.Гарэцкі).

Кропка з коскай ставіцца таксама паміж асобнымі групамі супастаўляльных частак, якія вызначаюцца аслабленай сувяззю адна з другой: *У лясах, гаях дразды спявалі, у балотах кнігаўкі крычалі; а ў небе ўдзень і вечарамі высока роўнымі радамі злятаўся вырай жураўліны* (Якуб Колас). *Свяціла сонца, браўся моцны мароз; але ў хаце была напалена печка і было цёпла* (В.Каваль).

ФІЛАЛАГІЧНЫЯ ЗАГАДКІ

## МАРА́

У раздзеле «Смерць Міхала» славутай «Новай зямлі» ёсць такія радкі:

*Яго цікавіць лёс уласны,*
*. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .*
*Што кожны момант над табою*
*Звісае страшнаю марою.*

Мы запыталі ў чытачоў, што азначае *мара́*. Рэдакцыя атрымала некалькі лістоў, у якіх гэтае слова атаесамляецца з істотай ніжэйшай беларускай міфалогіі: мара – прывід, дух, што палохае падарожных ды мучыць спячых. Менавіта такой уяўляецца яна з матэрыялаў некаторых беларускіх этнографаў, урыўкі з якіх надрукаваны ў цікавым зборніку «Міфы Бацькаўшчыны» (Менск, 1994). Гэтая незвычайная кніжка – пачатак, паводле слоў яе укладальніка Уладзіміра Васілевіча, вялікай работы дзеля стварэння энцыклапедыі «Беларуская міфалогія». Трэба спадзявацца, што ў такім выданні будуць сабраны навуковыя матэрыялы і артыкулы пра вельмі багаты паганскі пантэон нашых прашчураў. І адно з самых пачэсных месц на беларускім Алімпе зойме Мара. Але не прывід, што палохае і душыць...

Кім жа была Мара?

З пададзеных вышэй радкоў Коласавай паэмы яна паўстае багіняй лёсу: «лёс, што звісае марою». Але ці так ужо нашы прашчуры былі зацікаўлены сваім лёсам, каб ушаноўваць тую, што толькі вызначала чалавеку яго долю, прала нітку яго жыцця і кантралявала час смерці? Відаць, не. Верагодна, Мара была «першым», галоўным жаночым боствам. Менавіта таму ёй ладзілі капішчы на высокіх узгорках, якія пачалі называць яе імем – горка Мары, Марына, а пасля – Мар'іна горка. Некаторыя з тых капішчаў праіснавалі больш за 900 гадоў пры хрысціянстве і ці не паўстагоддзя пры бальшавіках. Існуюць нават сёння, што праўда, ужо толькі ў назве раённага цэнтра Пухавіцкага раёна – горада Мар'інай Горкі. Там, як сведчыць вядомы археолаг Э.Зайкоўскі, да 30-х гадоў існавала капішча з каменным ідалам, якому прыносілі ахвяраванні.

Вядома ж, не лёс, не жаданне ведаць свой лёс вабіла людзей да Мары. Яна была апякункай, маці, да якой людзі звярталіся з просьбай у самыя цяжкія часіны. Мара ўвасабляла сабою адну з тых асоб – суб'ектаў народнай рэлігійнай веры ў магутнасць і заступніцтва Маці-Прыроды.

Такое трактаванне міфалагічнай постаці Мары вынікае з тыпалагічнага падабенства жаночых боствaў, якія ўвасаблялі плённасць, апекаваліся ростам збажыны, ад чаго залежала жыццё тагачасных людзей. Але адначасова такія багіні, хоць яны належалі розным народам і культурам, разам з жыццятворнымі, прадуктыўнымі сіламі ўвасаблялі і смерць.

У продкаў расійцаў і ўкраінцаў ушаноўвалася мокаш, жаночае боства, якое апекавалася парадзіхамі, плённасцю. Вучоныя лічаць, што мокаш тыпалагічна блізкая да грэчаскіх мойраў, якія напачатку ўяўляліся шматлікімі боствамі, што пралі ніткі лёсу. Прыкладам, у Гамеравай «Іліядзе» выяўлены вобраз лёсу пад імем мойра, морос. Значэнне гэтага слова перадаюць як 'частку, нейчую долю'. Культ Мойры ў Грэцыі вядомы з V–IV стагоддзя да Хрыстовага нараджэння (далей – Х.н.).

Цалкам верагодна, што і слова Мара, і паняцце, якое яно абазначала, мае агульныя з грэчаскімі мойрамі карані. Багіня Мара таксама мае сваю «папярэдніцу» – Вялікую Маці, якую, прыкладам, у горадзе Каркемішы (ІІ тысячагоддзе да Х.н.), што знаходзіўся на рацэ Еўфрат, называлі Кубаба. Але і Кубаба мае нашмат болей старажытныя вытокі, якія сягаюць VII–VI тысячагоддзя да Х.н. і лакалізуюцца ў Малой Азіі, дзе некаторыя вучоныя ўсталёўваюць прарадзіму індаеўрапейцаў.

З.СІЦЬКО.

 





Генадзь ЦЫХУН:

# «...Перакідваецца мосцік паміж Славеніяй і Беларуссю...»

***Але не толькі пра яго гаварыў нашаму карэспандэнту вядомы беларускі славіст, сакратар Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, які нядаўна вярнуўся з-панад Дунаю. Пра ўплыў беларускай мовы на расійскую і пра незвычайныя з'явы на Кузнецкім мосце даведаецеся і вы, калі прачытаеце запіс аповяду Генадзя Цыхуна.***

*— Спадар Генадзь, Вас часта запрашаюць на міжнародныя навуковыя канферэнцыі. Там, відаць, Вы не толькі выступаеце з дакладам?*

— Яшчэ на Першым кангрэсе Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў (называем яе МАБ) былі ўтвораны нацыянальныя асацыяцыі беларусістаў шмат якіх краін. З кожнай мы падтрымліваем сувязь. Таму я і паехаў у Венгрыю. Дарэчы, там жыве Андраш Золтан, які вучыўся ў Маскве і даследаваў польскія і беларускія ўплывы на мову сярэдневяковай Маскоўскай Русі. Паводле вынікаў даследавання ён выдаў кнігу, дзе паказаў, што старабеларуская мова аказала моцны ўплыў на яе і нават была мовай дыпламатыі Маскоўскай Русі, якая, скажам, з Францыяй перапісвалася на старабеларускай мове — ёсць такія дакументы-помнікі.

Цяпер Андраш Золтан піша кнігу пра моўныя і іншыя праблемы Вялікага Княства Літоўскага. Мы ж рыхтуем чарговы кангрэс беларусістаў, што мае адбыцца ў траўні 1995 года.

Я быў запрошаны кафедрай славістыкі педагагічнага інстытута горада Самбатхэй, дзе рыхтуюць настаўнікаў для славенскіх і харвацкіх школ, якія ёсць у Венгрыі. 27 і 28 траўня кафедра славістыкі ладзіла міжнародную навуковую канферэнцыю — гэта ўжо пятыя так званыя Дні славістыкі. У нас наладжаны добрыя сувязі з вучонымі кафедры. Яе кіраўнік — кандыдат філалагічных навук Карай Гадані, які, дарэчы, абараняў сваю дысертацыю ў Менску.

Я выступаў на пасяджэнні секцыі славеністыкі, гэта значыць славенскай мовы, літаратуры і культуры, з дакладам «Славенска-беларускія моўныя дачыненні».

*— Гэта, відаць, зусім не распрацаваная тэма?*

— Так, звычайна бяруць тэмы моўных узаемасувязей паміж суседзямі, дзе лёгка выявіць узаемныя ўплывы. А ў такіх аддаленых народаў, як беларусы і славенцы, уяўляецца, наогул няма нічога агульнага, акрамя праславянскай спадчыны. Я паспрабаваў паказаць, што паміж імі былі пэўныя дачыненні, якія маюць вельмі істотнае значэнне для разумення і гісторыі вывучэння гэтых моў і для саміх моў.

Вядома, што Прымож Трубар, хто выдаў першую друкаваную Біблію на славенскай мове, карыстаўся «Бібліяй» Францішка Скарыны як узорам. Пасля выявілася, што былі больш грунтоўныя і важкія сувязі.

Мы ведаем, што ў беларускай мове перавагу атрымаў фанетычны прынцып правапісу, што новая беларуская літаратурная мова ўтварылася на народнай аснове. Аказваецца, што гэтыя прынцыпы не зваліліся з неба. У славянскім свеце іх упершыню правёў у жыццё вядомы славенец Ёрней Копітар, які жыў і працаваў у Вене. А ў Полацк трапіў другі вядомы славенец Габрыэль Грубер (1740—1805), які на працягу значнага перыяду фармаваў культурнае і духоўнае жыццё Полацка. Пры яго непасрэдным удзеле пісаліся і ставіліся навучэнцамі Полацкага калегіума інтэрмедыі, з якіх бярэ пачатак новая беларуская літаратурная мова. Такім чынам, ён паўплываў на станаўленне беларускай літаратурнай мовы. Габрыэль Грубер марыўператварыць Полацкі калегіум у другі пасля Віленскага універсітэт на землях Вялікага Княства Літоўскага.

Цікава, што яшчэ раней, у канцы XVI — пачатку XVII стагоддзя, з'явіліся самыя першыя заўвагі пра арфаграфію беларускіх кірылічных рукапісаў і друкаваных кніг у вядомай кнізе славенскага даследчыка Адама Багорыча.

Вядома, што барон Цойс, імкнучыся дапамагчы Б.Кумердзею і В.Водніку, якія стваралі першыя славенскія граматыкі, некалькі гадоў спрабаваў набыць «Граматыку» Мелеція Сматрыцкага, выдадзеную ў 1919 годзе ў Еўі каля Вільні. Яна была куплена, і ёю карыстаўся В.Воднік пры напісанні сваёй славенскай граматыкі, першай, выдадзенай на славенскай мове. Што да граматычных тэрмінаў, то ў прадмове В.Воднік заўважыў, што ён іх не выдумаў, а ўзяў у Сматрыцкага.

*— Сапраўды, лёс нашай мовы цесна пераплецены з лёсам славенскай...*

— Вывучэнне ўплываў і сувязей аддаленых славянскіх народаў мае не меншае значэнне для нас і цяпер. Іх вопыт часам больш блізкі нам, чым вопыт вялікіх суседніх народаў. Напрыклад, нашы некрытычна думаючыя мovaведы спасылаюцца, што, маўляў, у рускай мове не так. А яно і павінна быць інакш, таму што расійская мова развівалася зусім па іншых законах. Яна мае царкоўнаславянскую аснову і на народную не пераходзіла, у ёй замацаваўся марфалагічны (этымалагічны) прынцып правапісу.

Новая беларуская літаратурная мова ўтварылася значна пазней у параўнанні з расійскай, а ў кожнага этапа ёсць свае прынцыпы. Маладыя славянскія мовы ўтвараюцца, як правіла, на народнай аснове, на фанетычным прынцыпе. І без уліку усіх гэтых фактараў нельга нават параўноўваць мовы, як нельга параўноўваць сала і цвік. Наша мова і расійская мова — мовы розных традыцый.

*— Няўжо гэтага раней ніхто не бачыў?*

— Паводле Мікалая Трубяцкога, расійскага эмігранта, які доўгі час працаваў у вядомым Венскім інстытуце славістыкі, у славянскіх літаратурных мовах вылучаюцца дзве традыцыі: так званая царкоўнаславянская і чэшска-польская. Да першай ён адносіў расійскую і балгарскую мовы, да другой — чэшскую, польскую, славацкую, лужыцкую і нават украінскую. Мовы першай традыцыі групуюцца, паводле М.Трубяцкога, па генетычнай прыкмеце. Старажытнаруская мова была па сутнасці царкоўнаславянскай, а сучасная расійская мова ў значнай ступені захавала такі характар. Мовы чэшска-польскай традыцыі групуюцца паводле ўплываў на іх т.зв. лацінскай традыцыі, а беларуская, сербская, харвацкая і македонская маюць падабенства прынцыпаў, пакладзеных у аснову іх фармавання, гэта значыць, па тыпалагічнаму прызнаку, што і дало падставу гэтую традыцыю назваць тыпалагічнай.

А тое, што мы называем тыпалагічнай традыцыяй у развіцці славянскіх літаратурных моў, паводле сведчання Ёжа Пагачніка, выйшла з «копітаравай школы». А Копітар ставіў сабе за мэту ў першую чаргу: а) падвышэнне статуса народнай мовы да ўзроўню літаратурнай мовы; б) фанетычны прынцып правапісу; в) удасканаленне кірылічнай азбукі пры дапамозе новых знакаў. І атрымоўваецца, што т.зв. «маладыя» славянскія мовы, напрыклад, мова славенцаў, славакаў ды некаторых іншых нешматлікіх славянскіх народаў маюць з нашай мовай больш агульнага.

Ім, як і нам, даводзілася адстойваць сябе ад пасягальніцтва больш моцных моў і культур. Для славенцаў гэта былі немцы і італьянцы, а пасля — сербы і харваты, а ў нас — расіяне і палякі.

Цяпер адраджаецца славянафільства, і выкарыстоўваецца яно для апалагетыкі праваслаўя і русафільства. Славянства атаесамляецца з расійцамі, як самым большым славянскім народам, і з праваслаўнай рэлігіяй. Таму пашырэнне сувязей паміж беларускай і іншымі славянскімі мовамі мае вялікае значэнне для самазахавання народа, нацыі і мовы.

*— Ваша падарожжа па былой Аўстра-Венгерскай імперыі працягвалася...*

— У Аўстрыю мяне запрасілі прачытаць лекцыі ў інстытутах славістыкі Венскага і Зальцбургскага універсітэтаў.

*— Згаданыя інстытуты — гэта навучальныя ці навуковыя ўстановы?*

— Можна сказаць, што гэта кафедры славянскіх моў універсітэтаў, але ў інстытут аб'ядноўваюцца вучоныя-славісты, якія даследуюць славянскія мовы і літаратуры.

У Венскім інстытуце — вядомым цэнтры славістыкі з вялікай традыцыяй, — дзе выступіць — вялікі гонар, я чытаў лекцыю «Беларуская мова: традыцыі і сучаснасць». Я гаварыў, да якой традыцыі адносіцца наша мова, і паспрабаваў растлумачыць, чым выкліканы сучасны яе стан. Шмат якія факты былі для аўстрыйскіх калег адкрыццём.

У Зальцбургскім інстытуце, дзе працуе вядомы беларусіст Герман Бідэр, я прачытаў лекцыю пра беларускія дыялекты ў Расіі. Я гаварыў пра дыялекты беларуска-расійскага сумежжа, якія можна лічыць генетычна беларускімі — пра гаворкі Заходняй Браншчыны і Заходняй Смаленшчыны, у беларускай аснове якіх не сумняваюцца нават расійскія мовазнаўцы. Апошнім жа часам ідуць актыўныя спробы даказаць адваротнае. Асабліва актыўна дзейнічаюць санкт-пецярбургскія мовазнаўцы, якія складаюць слоўнік бранскіх гаворак. Ва ўступе да слоўніка яны даказваюць, што гэта расійскія гаворкі.

Але ёсць і іншыя вучоныя. У падручніку і атласе вядомых дыялектолагаў Захаравай і Арловай Заходняя Браншчына не зафарбавана, яе пакінулі чыстай, гэта значыць, што яны не дазваляюць сабе антынавуковых высноў. Такім чынам, навукова канстатуецца, што ёсць пэўныя зоны, якія трэба прызнаць беларускімі. Працы вядомага мовазнаўца Растаргуева не даюць падставы для іншага меркавання ! таму на зводнай карце Атласа расійскіх гаворак, які нядаўна выйшаў, Заходняя Браншчына не зафарбавана.

Я звярнуў увагу маіх слухачоў, што ёсць пэўныя з'явы беларускай мовы, якія распаўсюдзіліся шырэй на расійскай моўнай тэрыторыі, чым гэтыя гаворкі. Прыкладам, аканне... клінам распаўсюдзілася на расійскай тэрыторыі. І дзеканне ды цеканне несумненна ішлі ў расійскія гаворкі пад уплывам беларускай мовы. Гэта з'ява вельмі экспансіўная, яна стала рухаецца на ўсход. Маскоўскія даследчыкі ў пачатку нашага стагоддзя правялі такі эксперымент: яны на вуліцы Кузнецкі мост у Маскве апытвалі сустрэтых там сто чалавек — прасілі паўтарыць словы з дзеканнем і цеканнем і фіксавалі, колькі чалавек гаварылі деті, а колькі — дзеці. У 60—70-я гады эксперымент быў паўтораны. І выявілася, што працэнт дзекаючых за апошнія 40 гадоў значна ўзрос.

Запіс **З.СІЦЬКО.**

*Матэрыялы да слоўніка «Беларускія імёны»*

*Сымон БАРЫС*

# ЯК У НАС КЛІЧУЦЬ?

## МУЖЧЫНСКІЯ ІМЁНЫ

**(Працяг)**

**Казюк, Казімір** (бел.) – прадказваць мір. Вытв.: Казік, Казька, Казя, Казімірка, Казюк, Казючок. Імяніны кат. 4.03. Імя па бацьку – Казіміравіч, Казіміраўна і Казюкавіч, Казюкаўна.

**Калінік.** Каллиник (грэч.) – добры пераможца. Імяніны: 6.06; 11.08; 5.09; 27.12. Імя па бацьку – Калінікавіч, Калінікаўна.

**Каліст.** Каллист (грэч.) – вельмі прыгожы, найпрыгажэйшы. Імяніны: пр. 19.03; кат. Калікст – 14.10. Імя па бацьку – Каліставіч, Каліставўна.

**Каліст рат.** Каллистрат (грэч.) – добры воін, прыгожы воін. Імяніны 10.10. Імя па бацьку – Калістратавіч, Калістратаўна.

**Каміль.** Камиль. Імяніны: кат. 14, 18.07. Імя па бацьку – Камілевіч, Каміле ўна.

**Кандрат.** Кондрат (напэўна, з лац.) – квадратны, чатырохкутны. Вытв.: Кандрацік, Кандратка, Кандрась, Кандрусь. Імяніны: кат. 19.02; 29.04; 1.06. Імя па бацьку – Кандратавіч, Кандратаўна.

**Капітон.** Капитон (лац.) – з вялікай галавою, галаваты. Вытв.: Капітонік, Капітончык, Капа, Капіташ. Імяніны: 20.03; 25.08. Імя па бацьку – Капітонавіч, Капітонаўна.

**Кароль.** Кароль (стар.ням.) – мужны чалавек. Вытв.: Карусь, Каролік, Карук, Карох, Корша. Імяніны: 21.05; 3.06; 4.11. Імя па бацьку – Каролевіч, Каролеўна.

**Карл.** Карл паходзіць ад імені Кароль. Вытв. тыя ж, што да імені Кароль. Імя па бацьку – Карлавіч, Карлаўна.

**Карней, Карніла.** Корнелий (лац.) – рымскае родавае імя, магчыма – дужы. Вытв.: Карнілік, Карнілка, Карнілюк, Карнюк, Карнусь, Карнар, Карнейка, Карнейчык, Карнель, Карнэль. Імяніны: пр. 5.03; 1.06; 6.07; 4.08; 26.09; кат. 16.09. Імя па бацьку – Карнеевіч Карнееўна і Карнілавіч, Карнілаўна.

**Карп.** Карп (грэч.) – плод. Вытв.: Карпік, Карпека, Карпіла, Карпук, Карпюк, Карпусь, Карпей, Карпуш. Імяніны 17.01; 8.06; 26.10. Імя па бацьку – Карпавіч, Карпаўна.

**Каспар.** Коспар. Вытв.: Каспарчык, Кашпар. Імя па бацьку – Каспаравіч, Каспараўна.

**Кастусь.** Константин (лац.) – цвёрды, пастаянны. Вытв.: Косця, Косцік, Косцічак, Косцечка, Касцюк, Касцюня, Касцюля, Касцюш, Касцюшка, Костусь, Кастусёк, Касцей, Касташ, Канстась, Канстайла. Імяніны: пр. 8.01; 19.03; 3, 5, 21.06; 6, 16.07; 11, 17.08; 2, 15.10; 4, 23.11; кат. 11.03. Імя па бацьку – Кастусевіч, Кастусеўна.

**Касьян.** Касиан (лац.) – парожні, пусты. Імяніны: 13.03; 29.05; 3, 5, 28.06; 10.09; 15.10. Імя па бацьку – Касьянавіч, Касьянаўна.

**Кіпрэй. Купрэй.** Киприан (грэч.) – той, хто з вострава Кіпр. Вытв.: Купрык, Купрук, Купрысь; Кіпрык, Кіпрук, Кіпрусь; Цыпрыян. Імяніны: пр. 23.03; 23.05; 9.06; 30.08; 13, 29.09; 15.10; кат. Цыпрыян – 10.03; 9.08; 14, 16, 26.09. Імя па бацьку – Кіпрэевіч, Кіпрэеўна і Купрэевіч, Купрэеўна.

**Кірэй.** Кир (грэч.) – пан (яўр.) – сонца. Вытв.: Кірык [Кирик (грэч.) – вястун]. Вытв.: Кірэйка, Кірук, Кірша. Імяніны: пр. 13.02; 11.05; Кірыка – 28.07. Імя па бацьку – Кірэевіч, Кірэеўна.

**Кірыла.** Кирилл (персідскае) – сонца. Разм. Чурыла. Вытв.: Кірылка, Кірук, Кіруш Кіруха Кір'яш. Імяніны: пр. 31.01; 17, 27.02; 31.03; 11.04; 11, 21.05; 22.06; 22.07; 19.09; 21.12; кат. 9, 14.02; 18.03; 27.06. Імя па бацьку – Кірылавіч, Кірылаўна.

**Клаўдусь.** Клавдий (лац.) – кульгавы. Вытв.: Клаўдзік, Клаўдук, Клаўдзіяш. Імяніны: пр. 13.02; кат. 8.11. Імя па бацьку – Клаўдусевіч, Клаўдусеўна.

**Клім.** Климент (лац.) – міласэрны. Вытв.: Клімцік, Клімук, Клімік, Клімко, Клімась; Клімаш. Імяніны: пр. 17.01; 5.02; 5, 17.05; 9.08; 8.12; кат. Кляменс – 15.03; 23.11. Імя па бацьку – Клімавіч, Клімаўна.

**Конан.** Канась. Конон (грэч.) – працоўны. Вытв.: Канцісь, Канук, Канась, Конаш, Канаш. Імяніны 18.03. Імя па бацьку – Конанавіч, Конанаўна і Канасевіч, Канасеўна.

**Кузьма.** Косма (грэч.) – упрыгожанне. Вытв.: Кузя, Кузёмка, Кузё, Кузік, Кузюк, Кузьмісь, Кузьмей. Імяніны: пр. 3.03; 1.05; 6, 14.07; 11, 16.08; 25, 30.10; 14.11; кат. 26.09. Імя па бацьку – Кузьміч, Кузьмінічна.

**Ксавер.** Ксаверий (лац.) – ад назвы замка ў Іспаніі. Імя па бацьку – Ксаверавіч Ксавераўна.

*(Працяг будзе).*

 

СТВОРЫМ ГІМН БЕЛАРУСІ РАЗАМ

# ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

**1. Мы, беларусы, — вольныя людзі!**
**2. Вольным заўсёды будзе наш шлях.**
**3. Сімвал свабоды — Сцяг Беларусі,**
**4. Бела-чырвона-белы наш Сцяг.**
**5. Хай жа ніколі ён не загіне!**
**6. Бог захавае Белую Русь.**
**7. Наша адданасць — Вольнай Радзіме.**
**8. Хай жа заўсёды жыве Беларусь!**
**9. Праца народа моц і свабоду —**
**10. Годнасць гартуе з году ў год...**
**11. Веліч Радзімы — мужнасць народа,**
**12. Люд Беларусі — слаўны народ.**
**13. Хай жа ніколі ён не загіне!**
**14. Бог захавае Белую Русь.**
**15. Наша адданасць — мілай Радзіме.**
**16. Хай жа заўсёды жыве Беларусь!**
**17. Край наш багаты, шчодры, дзівосны,**
**18. Рэкі павольныя, светлыя тут.**
**19. Мірна гамоняць бярозы ды сосны...**
**20. Цешце, нашчадкі, родны наш кут!**
**21. Хай жа ніколі ён не загіне!**
**22. Бог захавае Белую Русь.**
**23. Наша адданасць — мілай Радзіме.**
**24. Хай жа заўсёды жыве Беларусь!**

Ад рэдакцыі: Па просьбе чытачоў паўтараем тэкст верша У. Жыгалкі, які ён прапанаваў дапрацаваць грамадою, каб такім чынам стварыць Гімн Беларусі. Радкі вырашана пранумараваць дзеля зручнасці спасылкі на іх у далейшым.

Напамінаем: кожны, хто бярэ ўдзел у дапрацоўцы тэксту, можа ў межах агульнай задумы верша дасылаць уласныя варыянты радкоў ці асобных слоў, а таксама падтрымліваць альбо крытыкаваць заўвагі і варыянты іншых удзельнікаў сумеснай працы над тэкстам. Публікуючы іх, мы ўстрымліваемся ад рэдакцыйных каментараў. Чакаем вашых лістоў, шаноўныя чытачы!

*Шаноўная рэдакцыя! Я далучаюся да прапановы У. Жыгалкі стварыць наш Беларускі гімн разам, грамадою. Дасылаю Вам свой варыянт Гімна, дзе я выкарыстаў выразы ды і настрой з тэксту У. Жыгалкі (Вы прасілі не дасылаць новых тэкстаў). Калі б так усенародна з самага пачатку ўлады ўзяліся за справу, даўно быў бы свой Беларускі нацыянальны Гімн. Я таксама на аўтарства не прэтэндую і ўсе аўтарскія правы даручаю «Нашаму слову».*

*Дарэчы, мы ўсе ведаем гісторыю з конкурсам на лепшы Гімн: тры песні пад дэвізамі, выбраныя з паўсотні тэкстаў і мелодый, не былі прыняты Дзяржаўнай камісіяй.*

*А дзе ж дзеліся астатнія сорак з лішкам тэкстаў і мелодый? Што, іх здалі ў спецсхоў? Думаю, не! Яны ляжаць недзе, як кажуць, пад сукном, у той жа час, як народным хорам няма чаго спяваць. Пісаліся яны ж як патрыятычныя песні, а не як забаўкі! А нам такіх песняў-Гімнаў не хапае.*

***Янка НАСУТА**, Гароднея.*

# ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

**Мы — беларусы, мы — пабрацімы,**
**Крочым сям'ёй на вольны абшар.**
**Уецца над намі сімвал Радзімы, —**
**Бела-чырвона-белы штандар.**
**Славім у песнях нашу краіну,**
**Белую, быццам святочны абрус.**
**Бог абароніць нашу радзіну,**
**Хай маладая жыве Беларусь!**
**Выйшлі мы з племя, з мужнай кагорты,**
**Лёс нешчаслівы нас напаткаў:**
**Паў за свабоду кожны чацвёрты,**
**Чорны Чарнобыль гора паслаў...**
**Славім у песнях нашу краіну,**
**Белую, быццам святочны абрус.**
**Бог абароніць нашу радзіну,**
**Хай маладая жыве Беларусь!**
**Мы — беларусы, вольныя сёння,**
**Вольнымі будзем жыць у вяках.**
**Нас акрыляе ў працы «Пагоня»,**
**Кліча да згоды выбраны шлях.**
**Славім у песнях нашу краіну,**
**Белую, быццам святочны абрус.**
**Бог абароніць нашу радзіну,**
**Хай маладая жыве Беларусь!**

УРАЖАННІ

*Добры дзень, паважаная рэдакцыя, дасылаю вам некалькі замалёвак з натуры. І вельмі прашу, не трэба мяне нават завочна супакойваць, маўляў, не ўсё адразу. Не трэба. Вось мой бацька казаў, што калі Заходняя Беларусь адышла пад Польшчу, ужо праз год амаль усё мясцовае насельніцтва, прынамсі, у афіцыйных размовах, загаварыла па-польску.*

*А мы колькі часу ўжо суверэнныя?*

# АМАЛЬ «НЫ ШО»

Настрой, насуперак шэраму жыццю, быў цудоўны. Я вяртаўся вуліцамі вячэрняга Брэста з сустрэчы са Станіславам Шушкевічам. Сустрэча адбылася напярэдадні кампаніі па вылучэнні кандыдатаў у прэзідэнты. І былы лідэр парламента, безумоўна, маючы на ўвазе пэўныя мэты, шчыра, па-чалавечы, на роднай мове паведаміў аб стане бягучых спраў, падзяліўся меркаваннямі наконт далейшых, магчымых шляхоў паляпшэння жыцця, адказаў на пытанні прысутных. Асабіста мяне гэтая сустрэча абнадзейвала, адсюль і цудоўны настрой. І раптам...

– Мужчина, вы белорусский язык понимаете?

Я глянуў у бок, адкуль прагучала пытанне. Побач спыніліся дзве інтэлігентныя на выгляд, ахайна апранутыя бабулькі.

– А што? – сустрэў я пытанне пытаннем.

– Что это он всё время на своём дурацком языке повторял: «Я лічу, я лічу»?

«На своём дурацком»? Я зразумеў, што яны таксама ідуць з той сустрэчы. І моцна абураны тым, што дзяржаўная асоба гаварыла з імі на мове той краіны, у якой жывуць. Адкрытая нахабнасць вывела мяне з раўнавагі. Я спярша нават не знайшоў, што і адказаць. Заўважыўшы маю разгубленасць, адна з іх перапытала: «А вы белорус?» І, атрымаўшы станоўчы адказ, пагардліва фыркнула. Пасля гэтага абедзве адышлі ўбок, каб нават не ісці побач.

Так, у нас на захадзе Беларусі чыста беларускай мовы амаль не пачуеш. Я сам, карэнны беларус, размаўляю на мове, блізкай да рускай, з моцным польска-палескім акцэнтам. Аднак і ў думках не маю таго, што самастойная дзяржава можа існаваць без сваёй мовы, як роўна і без Герба, Гімна ці сваіх грошай. Хто ж такую дзяржаву прызнае, ці тым больш стане паважаць? А тут – «на своём дурацком». І гэта да мяне, беларуса?.. На маёй зямлі? Не саромеючыся, прама ў вочы? Ды што ж гэта робіцца, людцы добрыя?

Успомнілася, як на адным з пасяджэнняў Вярхоўнага Савета народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч амаль на каленях пераконваў дэпутатаў прагаласаваць за дзяржаўнасць нашай мовы. Пераконваў. Сваіх жа беларусаў!

...Калі на душы цяжка, шукаеш паратунку ў зносінах з разумным чалавекам. Неўзабаве мне ў гэтым пашчасціла. Я сустрэў старога знаёмага, суседа па садовым таварыстве. Наш, мясцовы. Разважны і начытаны. Вось яму я і выклаў сваю крыўду.

– Ну і што тут такога? – здзівіўся той. – Я і сябе не лічу беларусам. І мову беларускую роднай таксама. Я – паляшук.

Прайшоў час. У рэспубліцы падвялі вынікі першага тура прэзідэнцкіх выбараў. Неўзабаве лідэр прыехаў у наш горад. Вядома, сустрэча праходзіла на рускай мове. І калі прэтэндэнту на вышэйшую дзяржаўную пасаду нехта задаў пытанне, чаму ён не гаворыць на роднай мове, той ганарліва адказаў: «А что, вы меня на этой не понимаете?» І далей, што самае крыўднае, пад воплескі пачаў развіваць такую тэорыю: «Если серьёзно, то это язык не русский. Создавали его и белорусы, и украинцы. Так что он – язык межнациональный».

Вось так! Калі ёсць міжнацыянальны, тым больш, што мы яго ўтварылі, то навошта нам свой? Урэшце я сур'ёзна задумаўся: «А ці не час і мне перагледзець свае пазіцыі? Чаму я абураюся? Вунь як пляскаюць рускамоўнаму лідэру. Дык мо і на самай справе так трэба: сваё ўбок, учапіўся за чужы хвост і матляйся сабе без турбот і клопату?»

У нашым парку стаіць доўгі стол – застаўся ад колішняга шахматнага клуба, памяшканне якога мясцовыя ўлады здалі нейкім дзялкам у арэнду. Хоць гэта і выклікала справядлівае абурэнне ў людзей, аднак каму цяпер паскардзішся? Дык вось, за гэты доўгі стол пры спрыяльным надвор'і пасля дзённых спраў збіраюцца аматары шахмат. У адзін з вечароў да шахматыстаў падышоў малады мужчына. З ім былі дзве дачкі. Адна, зусім маленькая, была на руках, другая, падлетак, ішла побач. Ішлі яны павольна ўздоўж стала. Бацька папытаў у старэйшай:

– Гэтая гульня як завецца?

– Шахматы, – адказала старэйшая.

– А гэтая?

– Шашкі.

Нешта лепятала і малодшая.

– А гэтая фігура як завецца? – працягваў экзаменаваць бацька.

– Слон, – тут жа прагучаў адказ.

– А гэтая?

– Конь.

– Так, гэта конь. Небяспечная фігура – конь, – тлумачыў малады бацька.

І толькі цяпер, чамусьці менавіта па слову «небяспечная», я раптам заўважыў, што размаўляе ён з дзецьмі па-беларуску. Я міжволі ўзняў галаву, глянуў у бок сямейкі. Малады чалавек заўважыў маё здзіўленне і, перайшоўшы на «міжнацыянальную» мову, растлумачыў: «Я іх абедзвюх вучу размаўляць па-беларуску. І не думайце, што я які-небудзь там філолаг ці паліглот. Я звычайны рабацяга. Проста выпадак у мяне аднойчы быў такі. Ужо пасля развалу Саюза сустрэў неяк знаёмага з Украіны. А ў той час, самі разумееце, толькі і размовы, што пра межы, пра грошы, пра мову. Вось і я вырашыў паарыгінальнічаць. «Як ты думаеш, – пытаю я ў сябра, – што такое народ без уласнай мовы?» А той з сур'ёзным выглядам адказаў: «Ны шо!» Вось з таго часу я, не вагаючыся, вырашыў: няхай у свой час недавучылі мяне, аднак мае дзеці павінны размаўляць толькі на роднай мове! Чым мы горшыя за ўкраінцаў?»

На сэрцы раптам палягчэла. Зноў з'явілася надзея.

**Уладзімір ХРЫСЦЮК.**

*Л. КАЗЛОЎ*

# ГІСТОРЫЯ Ў АНЕКДОТАХ

***ДАСЦІПНЫ ЛЮД ПАСПАЛІТЫ***

Дарэчы, давайце заглянем у старажытны горад. Што ён сабою ўяўляе, здаецца, напісана ўжо нямала. Застаецца хіба нешта яшчэ сказаць пра насельнікаў. Пазнаёмімся з рознымі яго жыхарамі, а таксама і з гасцямі. Бо госць, хоць бывае мала, але бачыць многа. Кажуць, што багацце можна ўтаіць, а вось беднасць – ніколі. Так і з тым, што выклікае смех – як ні намагайся, а ўсё ж нехта заўважыць ды і не вытрымае.

*По дарозе, што вяла да горада, ехаў верхам на кані шляхціц. А быў ён таўшчэзны, з-за чаго конь увесь час збіваўся на павольную хаду. Вечарэла, і трэба было спяшацца, бо гарадскія вароты на ноч звычайна зачыняліся, а тады колькі ні прасі – не прапусцяць.*

*Калі да брамы было ўжо зусім недалёка, насустрач нашаму вершніку трапіўся селянін на возе, які вяртаўся дадому.*

*– Паслухай, – звярнуўся да яго шляхціц, – ці змагу я ўехаць у горад?*

*Селянін, агледзеўшы ўважліва фігуру сустрэчнага, адказаў:*

*– Я дык з фурай сена праехаў, думаю, ваша мосць неяк праціснецца.*

Мяшчане, гэта значыць жыхары места – горада альбо мястэчка, складаліся з рамеснікаў, купцоў, дробных гандляроў і іншых людзей, не заўсёды нашым сучаснікам зразумелых прафесій, жылі ў цесна пастаўленых двух-, трохпавярховых будынках. На першым паверсе звычайна размяшчалася крама, майстэрня ці нейкая сярэднявечная ўстанова з канторай. А сярод такой цесняты вілася вулачка, выкладзеная «кацінымі лбамі» – брукам...

*У краму залезлі злодзеі і выцягнулі адтуль усё, што мела вартасць. Пад канец дзеяння, якое ажыццяўляецца звычайна ўначы, сюды падышоў цэхмайстар з вартай. Яны рабілі апошні абход горада, калі іх увагу прыцягнулі адчыненыя дзверы крамы і нейкі чалавек у сярэдзіне.*

*– Што тут за справы такія? – прагрымеў цэхмайстар.*

*– Шаноўны пане, – зараз жа адгукнуўся злодзей, узяўшы ў рукі мятлу, – вось, прыбіраю. Памёр наш гаспадар, дык трэба ўсё было вынесці ў пакоі...*

*– Але ж не відаць нікога, хто б плакаў па нябожчыку, – няўпэўнена заўважыў прадстаўнік улады.*

*– Опане, плач пачнецца раніцою.*

*Староста і бурмістр жылі ў добрай згодзе. Нават мелі адно супольнае адзенне для свят ці ўрачыстых цырыманіялаў, якое апраналі па чарзе. Але аднойчы староста па нейкай прычыне не перадаў боты з гэтага афіцыйнага камплекта, і бурмістр, атрымаўшы запрашэнне на сустрэчу з каралём, які праязджаў праз іх горад, вымушаны быў прасядзець дома. І гэта абразіла яго да глыбіні душы.*

*Прайшло некалькі дзён. Пану старосту трэба было пакараць нейкага злачынца, якога суд прыгаварыў да павешання. За шыбеніцай жа даводзілася звяртацца да таго ж бурмістра. І дзяржаўца мясцовых зямель як ні ў чым не бывала накіраваў просьбу ў магістрат. На гэта галава горада адказаў: «Шыбеніцы не дам, бо, калі і маю яе, то выключна для сябе асабіста і для сваіх блізкіх».*

*Калі толькі пачыналася недзе яшчэ зусім нябачнае першаснае накапленне капіталу, то гэта, бясспрэчна, адбывалася ў куфэрках мяшчан. Можна колькі хочаце смяяцца і здзекавацца са скупасці гэтых першапраходцаў капіталізму, і мы таксама гэта зробім, але ж... Але ж грошы – кроў дзяржавы. Пры нармальным кровазвароце арганізм адчувае сябе нармальна. «Не так добра з грашыма, як дрэнна без іх», – казалі яшчэ ў далёкай старажытнасці. Пазней дадалі: «Хто мае грошы, той розумам харошы». Здаецца, усё правільна. Хаця некаторыя безнадзейна махалі рукою, кажучы, што чалавек грошы збірае, а чорт мяшок шые. Можна яшчэ нямала прыслоўяў датачыць, якія то хваляць таго, хто мае грошы, то наадварот. Пара ж і пазнаёміцца з тымі самымі збіральнікамі грашовых знакаў, што пакуль яшчэ не ведаюць пра нумізматыку.*

*Мяшчанка-ўдава заказала літургію ў царкве і заплаціла ўсяго паўгроша. Святар стаў за аналоем, але службу не пачынаў, толькі гартаў і гартаў Евангелле, быццам бы нешта шукаючы. Стаяла зіма, ужо і ногі ў кабеты сталі мерзнуць, а ля алтара панавала цішыня. Нарэшце заказчыца не вытрымала і спытала, у чым справа. «Ды вось ніяк не магу знайсці тое месца ў кнізе, якое служыцца за паўгроша», – паясніў клірык. І прыйшлося эканомнай удаве патроіць суму.*

*Захварэў майстар-раменснік, ды так, што неўзабаве стаў канаць. Жонка, якая была ўвесь час пры ім, пабегла да суседзяў, каб пазычыць свечку-грамнічку, і запаліла яе каля ложа паміраючага. Але смерць перастала спяшацца, затрымалася на паўдарозе. Гэта раззлавала кабету, і яна давай падганяць мужа: «Канай хутчэй, каб свечка дарма не гарэла, бо прыйдзецца плаціць за новую».*

*Захварэла неяк адна купчыха-ўдава, і наведаць яе прыйшла адзіная з радні мяшчанка, якая ў думках выношвала нейкія планы наконт спадчыны. Прыйшоўшы, яна стала «суцяшаць» хворую:*

*– Ах, дарагая мая, якая ж ты шчаслівая! Яшчэ крыху, і ты ўбачыш самога Госпада, які паклапоціцца аб тваёй бязгрэшнай душы...*

*– Калі так, – адгукнулася купчыха, – дык я адразу ж папрашу Пана Бога, каб і табе, мая дарагая, найлепшае месца неадкладна падрыхтаваў.*

*– Не, не, не трэба, – замахала рукамі госця, – гэта парушыць мае справы на зямлі, таму не праспешвай Усявышняга!*

# ВЫПІСВАЙЦЕ ГАЗЕТУ




# НАША СЛОВА

***«Наша слова» — пастаянна дзеючая трыбуна руплiўцаў беларушчыны***

**Калі выпішаце «Наша слова», Вы атрымаеце магчымасць штотыдзень знаёміцца з экспрэс-аналізам падзей нацыянальнага жыцця Беларусі і свету**

**Падтрымліваць сувязь з лепшымі знаўцамі мовы і гісторыі і карыстацца іх парадамі**

**Чытаць успаміны дзеячаў культуры, згадкі, архіўныя знаходкі**

**Разнастайныя паведамленні пра беларускае замежжа**

**Агляды рэгіянальных выданняў ТБМ**

**Пераклад вострасюжэтнай прозы лепшых майстроў слова**

**Кніжныя навіны. Размоўнікі. Радавод. Народную лякарню. Гумарэскі. Эпіграмы і інш.**

***I гэта ўсяго за 1000 руб. у месяц ці 3000 руб. за квартал***

***Продаж у розніцу вельмі абмежаваны. ІНДЭКС для падпіскі 63865.***

**Супрацоўнікі і рэдкалегія «Нашага слова» звяртаюцца да ўсіх сяброў ТБМ імя Ф.Скарыны і нашых актыўных аўтараў размножыць і размясціць рэкламу «Нашага слова» на відных месцах і наогул паспрыяць падпісцы.**

## І СМЕХ І ГРЭХ

*Густаў КРКЛЕЦ*

### НА СМЕТНІКУ

Задзёршы дзюбу, певень ганарысты
Дапытваў вераб'я: «Ты мне скажы начыста,
Хіба ж благая песенька мая?!»
«Дзівосная... аж сэрца замірае...» —
Цвыркоча верабей і... вушы затыкае.

### РАКАВА ХАДА

Святла прамень, як першы раз угледзеў рака,
Здзівіўся і не змог не выказаць спагады:
— Дзе ж гэта ён знявечыўся так, небарака?
Лепш акалець, чым так хадзіць — наперад задам!

*З сербскахарвацкай мовы пераклаў **Іван ЧАРОТА**.*

## АРХІЎ ДУМАК

*Іва АНДРЫЧ* (1892—1975) — югаслаўскі пісьменнік сусветнай вядомасці, лаўрэат Нобелеўскай прэміі 1961 года. Прызнаны майстар-эпік (з ім у гэтай іпастасі пазнаёміць нас хутка выдавецтва «Мастацкая літаратура»), арыгінальны паэт (хто не верыць, няхай звернецца да зборніка «Сербская паэзія», выдадзенага той самай «Мастацкай літаратурай» у 1989 г.) і, бясспрэчна, вялікі здольнік у жанры мудраслоўя. Каб пераканацца, возьмем некалькі фрагментаў з цікавай анталогіі Мiларада Блэчыча «Іва Андрыч над неаглядпай ракою жыцця», што нядаўна з'явілася ў Бялградзе, да 100-годдзя з дня нараджэння славутага песняра.

* * *

Думка — наймацнейшая і найчысцейшая за ўсё.

* * *

Не прападае ніводная людская думка, ніводнае памкненне духу.

* * *

Жыццё нам вяртае толькі тое, што мы іншым аддаем.

* * *

У жыцці маім няма нічога майго.

* * *

Бадай, недзе палова агідных і шкодных спраў, якія атручваюць жыццё людзей і паганяць выгляд свету, прыдумана ў пасцелі ці вакол яе.

* * *

Жыццё: адзінае і безнадзейна апошняе жыццё.

* * *

Што не баліць — гэта не жыццё, што не мінае — гэта не шчасце.

* * *

Тое, што называем прагаю жыцця, у асноўным нішто іншае, як прывязанасць да пэўных жыццёвых праяў і звычак. Пэўна, тут недзе і корань усяго страху чалавека перад неіснаваннем.

* * *

У жыцці гэтулькі рэчаў, якіх мы баяліся. Дарэмна. Варта жыць.

*Пераклаў з сербскахарвацкай мовы І. ЧАРОТА.*




Вы пачынаеце даваць мёд дзіцяці перад дзённым сном, на ноч, пасля прыняцця вялікай колькасці вадкасці і пасля перажытага эмацыянальнага ўзрушэння (наведванне навагодняй ёлкі, спектакля, парку і г.д.). З часам, па пэўных прыкметах вы навучыцеся распазнаваць: будзе далей ваша дзіця мачыцца ў пасцель або не. Доза мёду змяншаецца паступова, а затым у якасці лекавага сродку выключаецца зусім з харчавання дзіцяці.

### *Д.ДЖАРВІС:* МЁД ІСХІЛЬНАСЦЬ ДЗЯЦЕЙ МАЧЫЦЦА Ў ПАСЦЕЛЬ

Дзеці, якія ўначы мочацца ў пасцель, нервовыя, неспакойныя, раздражнёныя. Часам у іх назіраецца інфантыльная (з парушэннямі) мова. Народная медыцына рэкамендуе ў такіх выпадках прафілактычнае лячэнне і эфектыўную тэрапію. У якасці тэрапеўтычнага сродку скарыстоўваецца на працягу доўгага часу мёд. Доктар Джарвіс паказаў, што мёд добра пераносіцца большасцю дзяцей, супакойвае нервовую сістэму і дзякуючы сваёй гіграскапічнасці (уласцівасці паглынаць вадкасць) прадухіляе ў дзяцей мочаспусканне ў пасцель.

Прафілактычнае лячэнне мае на мэце папярэдзіць узнікненне ў дзіцяці звычкі мачыцца ў пасцель. Пачынаць яго трэба ва ўзросце аднаго года. Дзіця садзяць на гаршчок праз роўныя прамежкі часу (спярша праз кожныя тры гадзіны) і ў адзін і той жа час: пасля сну, пасля яды, пасля прагулкі. Такім чынам, у дзіцяці выпрацоўваецца умоўны рэфлекс, а вы навучыцеся рэгуляваць яго мочаспусканне.

Аднак бывае так, што вы своечасова не правялі прафілактычнае лячэнне. Вашаму дзіцяці споўнілася тры гады, а яно працягвае мачыцца ў пасцель. Тады яго неабходна палячыць мёдам. Аднаразовая доза — адна чайная лыжачка.

### МЁД У ЯКАСЦІ СНАТВОРНАГА

Народная медыцына разглядае мёд як найлепшы снатворны сродак. Калі вы ноччу засынаеце з цяжкасцю, лёгка прачынаецеся і потым доўга не можаце заснуць, то вы павінны карыстацца мёдам. Прымайце яго штодзённа за вячэрай па адной сталовай лыжцы. І ў хуткім часе вас ахопіць дрымота. Паклаўшы галаву на падушку, вы адразу заснаце. Калі падасца, што адной чайнай лыжкі недастаткова або вы моцна перахваляваліся, тады звярніцеся да парады, якая даецца Джарвісам у раздзеле «Калій і яго значэнне» («Наша слова», 1993, № 26, 30 чэрвеня). Чытаем: «Уначы бывае цяжка заснуць, і сон гэты павярхоўны. У такім разе патрэбна лячыцца мёдам, які заспакаяльна дзейнічае на арганізм. Народная медыцына не ведае лепшага лекавага сродку, чым кубачак мёду з дабаўленнем трох чайных лыжак яблычнага воцату. Перад сном прымаюць дзве чайныя лыжачкі. Калі праз паўгадзіны заснуць не ўдаецца, патрэбна прыняць яшчэ дзве чайныя лыжкі сумесі. Пры вялікай слабасці давядзецца прыняць некалькі лыжак, а ўначы, калі пасля абуджэння нельга заснуць, трэба прыняць сумесь яшчэ раз. Такі сродак значна лепшы за любое аптэчнае снатворнае, паколькі мёд няшкодны для арганізма. У спалучэнні з яблычным воцатам, як лічыць народная медыцына, ён яшчэ больш эфектыўны.

Заснавальнік: ТБМ імя Ф.Скарыны.

АДРАС РЭДАКЦЫІ:

220029, г.Менск, вул.Чычэрына, 1

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:
Эрнэст Ялугін — галоўны рэдактар, Лявон Баршчэўскі, Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Вінцук Вячорка, Віктар Гайсёнак, Радзім Гарэцкі, Ніл Гілевіч, Аляксей Глушко, Сяргей Запрудскі, Анатоль Клышка, Уладзімір Ламека, Зміцер Санько, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун, Віктар Шніп — адказны сакратар.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара можа не адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісаў рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

Індэкс 63865. Замова 30

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». 220041, г.Менск, пр.Ф.Скарыны, 79.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Наклад 5940 паасобнікаў
Падпісана ў друк 15.08.1994 г. у 15 гадзін.